
З Раджаством Хрыстовым!

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Аліцыя Сегень-Матыевіч → 3

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 02 (3165) Год LXII

Беласток, 8 студзеня 2017 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Такі адзіны вечар

**Штогод маем такі вечар, калі ў мільёнах дамоў ва ўсім свеце думкі паўтара мільярда хрысціян кіруюцца ў адно месца — у Святую Зямлю і Віфлеем, дзе звыш дзвюх тысяч гадоў таму збылася тайна прыходу на свет Збавіцеля — Дзіцятка Ісуса. Штогадова сядаем за калядны стол для самай радаснай сямейнай урачыстасці. Напярэдадні Раджджаства Хрыстовага ўсе хочуць быць разам са сваімі блізкімі. Гэтая сямейная ўрачыстасць раскрывае ў нас усе лепшыя пачуцці, калі ўжо асталіся толькі ўспаміны — кожны вяртаецца ў думках да найбліжэйшай сям'і. Спадарожнічае нам таксама задуменне над нашым асабістым і грамадскім жыццём.**

Нараджэнне Ісуса Хрыста здзейснілася ў пячоры каля Віфлеема. У непагадзь пячора была прытулкам пастухам і іхняй жывёле. Яна стала месцам асабліва паклонення ўжо з самага пачатку хрысціянства.

Пра прыход Месіі пісаў прарок Міхей: „І ты, Віфлеем-Ефрафа. Няўжо ты малы сярод тысяч іудзінаў? З цябе мае выйсці Той, Які павінен быць Уладаром у Ізраілі і Якога паходжанне здаўна, ад вечных дзён" (Міх., 5:2).

Гэтае прароцтва збылося, пра што паведамляе Евангелле ад Лукі: **„У той час быў абвешчаны загад кесара Аўгуста, каб правесці перапіс насельніцтва ўсяго свету. (...) І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Падаўся таксама Іосіф з Галілеі, з горада Назарэт, у Іудзею, у горад Давіда Віфлеем, бо выводзіўся ён з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай яму жонкай, якая была цяжарная. Калі яны там былі, наступіў час родаў. І нарадзіла Сына свайго першынца, і спавіла Яго, і паклала Яго ў яслі, бо не было ім месца ў гасцініцы" (Лука, 2:1-7).**

Традыцыя калядных святкаванняў — гэта гісторыя людзей, якія заўсёды цешацца, што Бог пасяліўся між імі. Чакаючы яны першай зоркі на небе, паколькі зорка (святло) была сімвалам нараджэння Месіі. Сноп буйнага калосся, які яшчэ там-сям заносяць у хату, абазначае, што Бог нарадзіўся ў Віфлееме — горадзе хлеба, а таксама што Бог становіцца не толькі чалавекам, але і хлебам. Абрад гэты змяшчае ў сабе глыбокі сэнс важнасці хлеба ў нашай культуры. Таму трэба нам навучаць нашых дзяцей пашане для „хлеба нашага штодзённага".

Амаль у кожным доме ўпрыгожваюць ёлку, жывое дрэўка — сімвал райскага дрэва, дрэва жыцця. Гэта знак Народжанага, Які прыйшоў да нас з многімі дарамі. Дрэва — гэта ўся гісторыя збаўлення. З дрэва пачаўся грэх і на дрэве Хрыстос нас збавіў. Упрыгожванне дрэўка свечкамі сімвалізуе Хрыста — „святло свету". Блісkучыя шарыкі, каляровыя цацкі, падарункі ад Дзеда Мароза маюць узмоцніць радасць людзей добрай волі, бо Бог нам нарадзіўся і абсыпаў дарамі. Пад ёлку ставяць яслі ў памяць нараджэння Сына Божага ў Віфлееме.

У Польшчы паўсюдна захаваўся звычай класці сена пад абрус на калядны стол. Сена прыгадвае нам убоства віфлеемскай пячоры і Марыі, якая паклала народжанага Хрыста на сена ў яслях.

У ліку дванаццаці страў, якія рыхтуюцца на Куццю, не можа бракаваць рыбы — старога хрысціянскага сімвала таямніцы (грэчаскае слова „іхтыс" абазначае рыбу, а літары — Ісус Хрыстос Сын Бога). Напамінае яна нам, каб не бракавала зычлівага стаўлення да людскіх тайнаў. Дробныя, штодзённыя справы, якія давярае нам другі чалавек, з'яўляюцца для яго вельмі важнымі і не могуць яны стаць нагодай для плётак і абвінавачванняў. Трэба нам вучыць нашых дзяцей прыгожага ўмельства стрымліваць таямніцу.



Падчас калядная вячэры найбольш красамоўнымі для нас з'яўляюцца аплатка або куцця і сустрэча пры супольным стале. Аплатка і куцця — гэта знак Бога, які ёсць хлеб радасці, прымірэння і добрых пажаданняў. Дзелячыся аплаткай або куццёй, сімвалічна выказваем узаемную чалавечую ахвярнасць, падкрэсліваем, што нават апошнім кавалкам хлеба хочам падзяліцца з бліжнім. Гэта збліжае далёкіх і аб'ядноўвае пасвараных. Нахіленыя над хлебам радасці, апускаемся ўглыб сябе і праз прызму ўласнага сэрца і розуму выходзім адначасна насустрач іншым. У гэтым хлебе адлюстроўваецца наша сумленне і таму прымушае ён нас да такой засяроджанасці.

Стол — самае адпаведнае месца для сапраўднай сустрэчы. Пры стале сядаем блізка сябе, тварам у твар, узаемна сабе дапамагаем. Такім чынам падмацоўваемся не толькі стравай, але і прысутнасцю іншых. На Куццю пакідаем пры стале адно свабоднае месца для чаканага госця. Выслоўе „госць у дом — Бог у дом" гэта сімвал нашай гасціннасці і памятка пра словы Збавіцеля: **„Сапраўды, гавару вам, тое што вы зрабілі аднаму з братоў Маіх меншых, зрабілі гэта і Мне" (Матф., 25:40).**

Шкада, што ў сённяшніх цесных кватэрах стол часцяком заменены нізкім столікам — лавай, якая штодзень стаіць пры сцяне, да якой сядаюць толькі з аднаго боку, як у глядзельнай зале — каб не засланяць тэлевізар — найважнейшае абсталяванне і сімвал падпарадкавання...

Свята Каляд мінае хутка, але рыхтуемся да яго доўга. Ужо з пачаткам Філіпавага посту чакаем, нягледзячы на холад, гэтага адзінага ў годзе вечара — найцяплейшага, калі мякнуць чалавечыя сэрцы. Прыходзім апоўначы ў храм, каб узорам віфлеемскіх пастухоў наблізіцца да таго адметнага свята Божай ласкі, якая апраменьвае чалавечае жыццё, акунутае ў цемру і боязь за будучыню. Хочам забыць сум, а можа і пакуты.

Глядзім на наша жыццё па-рознаму. Магчыма, што запар са святочным настроем радасці душым у сабе горыч, жаль, тугу па нечым, што было трывожнае, але праміну́ла разам з марамі маладога ўзросту; вяртанні да Божага святла заўсёды магчымыя. Спяваныя калядкі ўводзяць нас у радасць Раджджаства Хрыстовага. Бог сышоў на зямлю, у свет кшталтаў, хваляванняў, горычы і нават чалавечай подласці. І мы павінны раскрыць Богу свае сэрцы, паказаць, што маем у сабе больш дабрыні. Апостал Пётр павучаў: **„Галоўнае — любіцеся ўзаемна, бо любоў прыкрывае мноства грахоў" (1 Пётр, 4:8).**

З прыходу на свет Збавіцеля мінула два тысячагоддзі і ўзнікла законнае пытанне: чаго Збавіцель дабіўся, што Ён прынёс? Адказы могуць быць шматлікія і розныя. Яшчэ і сёння лёсы людзей вырашаюцца пры яслях і пад крыжам. Чалавек прадстаўляе сабою своеасаблівы мікракосмас, які пападаннем у грэх стаўся месцам спусташэння і асуджэння. Падзея ў віфлеемскай пячоры яшчэ не дае збаўлення, бо Хрыстос павінен нарадзіцца ў самім чалавеку. Але ў таго чалавека, дзе Божае Нараджэнне становіцца асабістым досведам і сакральным перажываннем, скамянелае сэрца ператвараецца ў поўнае светласці і цеплыні Неба. Няхай збываецца гімн нябеснага воінства — „Слава Богу ў вышніх і на зямлі мір, а ў чалавеках прыхільнасць і добрая воля".

Дзелячыся аплаткай або куццёй падумайма, як было б цудоўна на свеце, калі б так штодзённа ўсе людзі працягвалі да сябе рукі, калі б дзяліліся хлебам і сэрцам, а не нянавісцю, агрэсіяй, вайной.

Міхал МІНЦЭВІЧ


II месца ў XIX конкурсе «Дэбют»

айцец *Міраслаў Філіманюк*

## *Сумна мне Божа*

*Сумна мне Божа*
*сэрца прыгнечанае каменным*
*жалем*
*розум зняволены future*
*цела апантанае гарачым*
*пачуццём.*

*Прыкуты да рэальных рэчаў,*
*убогі і багаты,*
*разумны і дурны.*

*Пытаю Цябе Божа:*
*куды маю ісці*
*каму даверыць?*

## *Просьба*

*О Божа, дазволь мне*
*перетрываць,*
*вытрымаць у дарозе да Цябе.*
*Дазволь слухаць анёльскіх*
*хароў,*
*кахаць Цябе бязмежна.*
*У шалёных марах*
*страціў я шлях да Тваёй хвалы.*
*Вырві мяне з сатанінскай*
*моцы.*
*О Божа мой...*

* * *

*Я аднак хачу*
*споўніць жаданні,*
*І служыць тады*
*да канца Табе,*
*забыцца аб мінулым.*
*Трыумф цудоўны,*
*Ты паводле ўчынкаў*
*несмяротны, кінуўшы*
*слабасці грэшніка прэч.*
*І якое ж гэта простае*
*а якое ж бывае цяжкае.*
*Ты князю не давярай*
*і бяры ў жыцці тое*
*што вартае Тваёй мукі.*





# Каб ніхто не дзяўбаўся!

2016 год быў цяжкім для Беларусі і для яе насельнікаў. Кажуць, што высакосныя гады ўсе такія, надзвычай напружаныя і стратныя. Іншыя ж кажуць, што зараз лёгкіх гадоў не будзе зусім, такі свет, што ўсё пагаршаецца, марнее, валіцца і дэградуе. Маўляў, жыццё цяпер складаецца з чорных і белых палос. Чорная паласа — гэта калі ўсё кепска, а белая — калі няма нічога добрага. Прыродзе чалавека, аднак, уласціва рыхтавацца да горшага, але верыць у лепшае. Новы год — новыя надзеі, планы і разлікі.

Адышоўшы год мала парадаваў нас у грамадска-палітычным плане. Зноў чарговыя фальшывыя выбары, зноў абяцанкі-цацанкі заробку 500 долараў для насельніцтва, зноў велізарныя штрафы грамадскім актывістам за нацыянальную сімволіку і памяць, зноў няўхільнае павышэнне коштаў літаральна на ўсё. Зноў у абвешчаны „год культуры" з боку дзяржавы было мінімум беларускай культуры і беларускай мовы. Хоць нейкі маленькі пазітыўны зрух у гэтым кірунку ўсё ж адзначым. „Парадавала" дзяржава РБ сваіх грамадзян пад новы год і „лістамі шчасця" пра нібыта дармаедства ад падатковай інспекцыі. Асабліва старанна вылічвалі тых, хто фактычна жыве і працуе, альбо вучыцца за мяжой. Разлік тут просты — гэтых людзей заўсёды можна ўзяць на кантроль і прымусіць заплаціць абсурдны падатак проста на мяжы, дзе фіксуецца кожны пераезд. А тое, што гэтая дзяржава не можа даць сваім грамадзянам годнай працы і належнага заробку, яе не хвалюе. Прасцей запісаць тысячы людзей маладога і сярэдняга веку ў дармаеды. А якія ж яны дармаеды?! Мала таго, што яны забяспечваюць сябе, дык яшчэ ж прывозяць валюту розных краін у Беларусь, тым самым падтрымліваючы эканоміку краіны, часта ўтрымліваюць бацькоў, іншых сваякоў. Не забыліся пільныя інспектары і жанчын — маці, якія афіцыйна не працуюць, а знаходзяцца дома і даглядаюць сваіх дзяцей, пакуль мужы разрываюцца на некалькіх працах, альбо выязджаюць на заробкі за мяжу.

Нават за савецкім часам быў такі панятак як „хатняя гаспадыня", цяперашнія дзяржаўныя „разумнікі" і гэтую катэгорыю запісалі ў дармаеды. Проста ганьба і сорам за такую дзяржаву, хай яна лепш скароціць процьму сваіх ідэолагаў — вось дзе сапраўдныя гультаі, няўмекі, нахлебнікі і дармаеды! Галоўны ж вынік года для звычайных грамадзян — збядненне і нейкае асаблівае азлабленне. Перад Новым годам у натоўпах і чэргах вясёлых твараў можна было пабачыць вельмі мала.

Дзякуй Богу ў 2016 годзе сапраўдная вайна наўпрост усё ж не закранула Беларусь. Але гібрыдная вайна і экспансія з боку ўсходняга суседа ідзе цэлы час. І ніхто не можа даць гарантый, што гэта агрэсія не павялічыцца і беларускіх грамадзян не ўцягнуць у маскоўскія вайсковыя авантуры. Перафразуючы рок-класіка: „І як прадказана святымі, усё вісіць на валаску. І я гляджу з вялікім жахам на сучасную Маскву". Самай жа вялікай пагрозай для беларусаў застаецца расейская АЭС, якую надалей будуюць на нашай Астравеччыне. Ужо двойчы ляснуўся гэты агромністы рэактар — больш чым злавесны знак. Знак таго, што гэтая атамная станцыя можа прынесці Беларусі толькі бяду.

Паводле ўсходняй астралогіі 2017 год — нібыта год вогненнага пеўня. Сімвал нейкі зусім змрочны, хіба асабліва для Еўропы. Мінулы год быў азмрочаны шэрагам тэрарыстычных актаў у Старым свеце, арганізаваных ісламскімі фанатыкамі. Можна несумненна лічыць гэта тэндэнцыяй. Вось ужо і новы год пачаўся тэрактам у турэцкім Стамбуле. У Брытаніі заявілі пра магчымасць тэракта нават з прымяненнем хімічнай зброі. Зло ў гэтым свеце надзвычай разнастайнае, моцнае і вынаходлівае. Змагацца з ім надзвычай цяжка. Пра гэта павінны думаць дзяржаўныя і міжнацыянальныя структуры. А звычайнаму чалавеку найлепшы спосаб змагання са злом гэта рабіць дабро — сваім родным, блізкім, суседзям, знаёмым і зусім незнаёмым людзям. І шчыра жадаю ўсім чытачам, каб у 2017 годзе вас не дзяўбалі ні пеўні, ні арлы, ніякія драпежнікі!

З Новым годам і Калядамі!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Час адкрыць галовы



Я зачараваны стваральнікамі сярэднявечных кафедраў. Будавалі іх — так бывала — часам сотні гадоў. За гэты час наступныя пакаленні майстроў працягвалі іх архітэктурнае бачанне з набожнасцю і вялікай павагай да зладжанасці твора. Праўда, змяняліся за гэты час эстэтычныя ўзоры, мяняліся, хоць і нязначна, тэхналогіі, але ўсе новаўвядзенні змяшчаліся ў арыгінальнай і ўзнёслай задуме. Невядомы былі тады студыйныя праекты, не карысталіся дэталёвымі планамі... Усё было ўладкавана ў галовах майстроў — будаўнікоў, пакаленне за пакаленнем. Ідэя, якую матэрыялізавалі, была вечная. Фінальны твор уражвае да сёння, але не толькі звычайных едакоў хлеба, але таксама архітэктараў і інжынераў. Гэта канструкцыйныя і мастацкія жамчужыны. Ідэя кафедраў, несумненна, пазачасавая.

Таксама ідэя Дзяржавы, здаецца быць пазачасавай. Толькі ідэя якой дзяржавы — дзяржавы права, ці таталітарнай дзяржавы? А можа дзяржавы апякунскай, ці нацыянальнай? Усе гэтыя паняцці маюць сваіх прыхільнікаў і працягнікаў. Платон і Арыстоцель надавалі шмат увагі да гэтай ідэі. Таму калі нават сутыкаліся розныя ідэі па гэтым пытанні і эмоцыі, хоць ідэя дзяржава як палітычнага і тэрытарыяльнага твора толькі фармавалася. Тым не менш, фундаментальнае бачанне абодвух філосафаў знаходзіць сваё адлюстраванне ў многіх сучасных канцэпцыях. Бліжэйшай іх рэфлексіі дваццацівечная ідэя дзяржавы вяршэнства права, груба кажучы, прадбачвае перавагу існуючых праўных пагадненняў над уладай і яе паўнамоцтвамі, у той жа час гарантуючы неад'емныя правы і свабоды кожнаму грамадзяніну. Іншымі словамі, і ўлада, і грамадзянін у гэтай канцэпцыі маюць раўнапраўны статус перад законам. Улада не можа стаяць над ім, а грамадзянін не можа застацца беспакараным ані яе ігнаруючы, ані ламаючы. Якая гэта слушная канцэпцыя, але ж і поўная схаваных дэфектаў!

Як дзіця і юнак я спазнаў на сабе ідэалагічнае заняволенне. Што там «камуна»! Тадышні рэжым пры цяперашнім тэхнататалітарызме быў дзіцячай гульнёй у пясочніцы. Сучасныя метады, інструменты і тэхнікі ідэалагічнай апрацоўкі — за межамі чалавечага разумення. Сочка за адзінкамі з'яўляецца поўнай. Калісь нашы галовы былі апорай адноснай свабоды. А калі чалавек трацiў разуменне сябе, хапіла ўцячы аўтастопам у падарожжа вакол Польшчы. І тады пры вогнішчы, на беразе дзікага возера, у лясной глушы, на туманным лузе чалавек аднавіў душэўную раўнавагу. І пачуццё свабоды. І ўласнай ідэнтычнасці. Каля кастра быў толькі са сваёй уласнай унікальнасцю, суправаджанай спевам салаўёў і скрыгатам расстроенай гітары. Сёння гэта немагчыма. Прыклеіўся да нас мабільны тэлефон. Аўтанаводчык пастаянна знаходзіць пазіцыю нашага знаходжання. Нават калі мочымся ў чаратах, фатаграфуе нас спадарожнік. У горадзе сочаць камеры. У лесе іншыя камеры шпіёняць за намі са штучных дуплаў. Праслухоўванне тэлефонных размоў стала юрыдычнай нормай. Калі ўцякаем у інтэрнэт-сетку, наш кожны рух ператвараецца ў алгарытм, а той прадбачвае нашы чарговыя паводзіны. У інтэрнэце. І ў рэальным свеце.

Сённяшняя ўлада ўсё гэта не выдумала, але аддаючы перавагу крайняму аўтарытарызму, ахвотна і вельмі плаўна пераймае прылады тэхнататалітарызму для рэалізацыі сваіх мэт. У адпаведнасці з законам, але супраць правоў грамадзяніна. Праз некаторы час дастанецца ў нашы галовы. У іх мы схавалі самае галоўнае — пачуццё ўласнай волі. Толькі што на сённяшні дзень недастаткова закрыцца ў сценах сваіх уласных чэрапаў. Вар'яцтва, якое ахапіла свет, неўзабаве ўварвецца ў нашы галовы, нават калі мы іх самі не адчынім. Самая высокая пара адкрыць іх наперакор на ўсю шырыню. Надышоў час адкрыта выказваць сваю нязгоду супраць тэхнататалітарызму, які дзейнічае без якіх-небудзь абмежаванняў і правіл, супраць выкарыстоўваючага яго інструменты аўтарытарызму, які карыстаецца не толькі складанай лічбавай тэхнікай, але і ксенафобіяй, нацыяналізмам, рэлігіянцтвам, псеўдапатрыятызмам і гістарычным галашэннем. Прыйшоў час, каб адкрыць сваю ўласную галаву ў імя ўласнай свабоды.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Праваслаўная адноснасць часу

«Рождэство Христовэ, ангел пролетел» — першыя словы калядкі з дзяцінства сталі для мяне сімвалам ражджэственскіх святаў. У нас спявалі яе як самую галоўную і ў сямейным крузе, і на ўсяночную ў царкве. У царкве яе гучанне на фоне ікон, звязаных з нараджэннем Хрыстовым, укладвалася са сваім зместам у натуральны, гістарычны, народны пераказ. На фоне самых вялікіх ёлак, якія ўпрыгожвалі царкву, мы ўсе станавіліся саўдзельнікамі радаснай навіны. З адкрытымі ратамі дзеці ўглядаліся на свет, які ў сённяшнім разуменні смела можна назваць трохвымерным. Вакол нас у расшчэпленым святлом свечак вобразе кружыліся словы, музыка, іконы, якія ў спалучэнні з пахам кадзіла, кажухоў і марозу давалі невараготную прастору для дзіцячай фантазіі і ўяўлення. У мяне асабіста з тых пор па сённяшні дзень разыходзяцца па спіне дрыжыкі, калі ўзгадаю як уся царква спявала словы калядкі: «усіх дзяцей убілі, мечы прытупілі, а Хрыстос у Егіпце быў». Мне заўсёды рабілася страшна, кранальна і балюча, калі ўяўляў столькі нявінна забітых дзяцей, ад якіх ступіліся вострыя мячы ці нажы. У словах калядкі няма на шчасце гаворкі пра кроў, якая пралівалася ў час той разні, але ў маім дзіцячым свеце яна плыла перад вачыма. І тая радасць, што ўратаваны сын Божы прыйшоў да нас дзеля чалавечага збаўлення, заўсёды адчувалася ў пропаведзях бацюшкі і застольных расказах бацькоў. А распалажэнне таго бліжэй неакрэсленага і невядомага Егіпта многімі гадамі заставалася для мяне таямніцай. Калядны цырыманіял у гэтую ноч быў, здаецца, намнога важнейшым за ўсё дагматыкі. Галоўнае, што ўсе ведалі, што мы, праваслаўныя, каляду маем шостага студзеня.

Тое, на чым абапіраецца кожная рэлігія — гэта менавіта выразна акрэсленыя дагматычныя тлумачэнні і патрабаванні веры, а таксама дакладна распісаны гадавы цыкл багаслужбаў. Усе даты святаў, прысвяткаў, памінанняў маюць сваю логіку і паслядоўнасць. Кожны пост папярэджвае падзеі і святы вышэйшага значэння. Увесь дагматычна-каляндарны парадак мае даць кожнаму хрысціяніну штодзённы вектар памкнення да вечнага збаўлення, але і апірышча ў раскалыханым, акружаючым свеце, мае таксама даваць пачуццё еднасці і згуртаванасці перад грэшнымі выклікамі штодзённасці. Адыход ад гэтага ці паслабленне ўнутрыцаркоўнай арганізацыі заўсёды прыводзіць да разладу і непарадкаў. Таму з натуры кожная Царква з'яўляецца вельмі моцна іерархічнай і кансерватыўнай структурай. А адступнікі караюцца не толькі пагрозай вечнага пекла, але і зямнымі адхіленнямі ад удзелу ў царкоўным жыцці.

Але менавіта дзякуючы каляндарна-абрадаваму цыклу ў жыцці праваслаўных у Польшчы з'явіліся трэшчыны, а ў іх выніку пытанні, ад якіх адназначнага і канчатковага вырашэння пазбягаюць нашы іерархі. Датычыць гэта менавіта набрынялай праблемы святкаванняў паводле новага і старога стыляў. Востра і балюча адчуваецца гэта ўжо ў час ражджэственскіх свят. На ўсход ад Буга — святкуем іх у студзені, а на захад — у снежні. Такая праваслаўная адноснасць часу нікому не выходзіць на добрае. Сімвалічным прыкладам з'яўляецца тут Белая-Падляшская, у якой адна парафія святкуе ў адным стылі, а другая — у другім. Закалот, галаўны боль і пытанні, пытанні. А за пытаннямі натуральным чынам насоўваюцца сумненні. Дзе ж тут еднасць нас, усіх праваслаўных хрысціян, за якую молімся штотыдзень? Калі на Падляшшы трываем у піліпаўскім посце, нашы браты той жа самай веры і ў адной краіне разам са сваімі пастырамі расслабляюцца на гасцінных прыёмах. Міграцыйныя працэсы раскінулі праваслаўных Беласточчыны не толькі па ўсёй Польшчы, але і свеце. Выклікі сучаснасці патрабуюць усё ж такі ўпарадкавання і каляндарнага царкоўнага жыцця. Мае праваслаўныя знаёмыя запрашаюць мяне на Раждаство ў Варшаву ў снежні, але я ментальна і рэальна знаходжуся ў Беластоку ў другім часе і вымярэнні. А ў такой сітуацыі падвойных стандартаў то ёсць тут чыесці правіннасць і грэх? Я разумею, што ўсе мы — грэшныя людзі, але парадак у так важнай справе павінен быць. Дзякуй Богу, што прынамсі Вялікдзень у 2017 годзе ўсе хрысціяне адсвяткуюць разам.

**Яўген ВАПА**

# Нацыянальная тоеснасць моладзі з двухмоўных беларускіх сем'яў

Пытаннем нацыянальнай тоеснасці моладзі з беларускіх сем'яў на Гайнаўшчыне, якая выхоўваецца ў двухмоўным асяроддзі, займалася доктар гуманітарных навук Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта ў Ольштыне **Аліцыя Сегень-Матыевіч**, выпускніца Гайнаўскага белліцэя ў 1995 годзе. Сустрэчу з даследчыцай пад лозунгам «Двухмоўнасць — праклён, ці багацце?» у рамках праекта «Кірыліцай пісанае» арганізавала 23 снежня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская і заадно настаўніца беларускай мовы ў Школьна-прадшкольным комплексе ў Белавежы.

Пра госцю сустрэчы Аліцыю Сегень-Матыевіч распавяла вядучая спатканне Анджаліна Масальская. Аліцыя Сегень-Матыевіч — выпускніца Гайнаўскага белліцэя і педагагічнага аддзялення Педагагічнай вышэйшай школы ў Ольштыне. Магістарскую працу напісала на тэму «Школьніцтва для беларускай нацыянальнай меншасці на прыкладзе Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы — генезіс і развіццё». У 2005 годзе стала яна доктарам гуманітарных навук Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта ў Ольштыне, напісаўшы доктарскую дысертацыю на тэму «Пачуццё нацыянальнай тоеснасці моладзі беларускага паходжання, пражываючай на пагранічны ўсходняй Польшчы. Перспектыва міжкультурнай адукацыі». Аліцыя Сегень-Матыевіч — аўтар 70 навуковых артыкулаў, апублікаваных у Польшчы, Беларусі, Чэхіі, Расіі і Балгарыі, аўтар, сааўтар і рэдактар 10 кніжак, між іншым, аўтарскай манаграфіі «Пачуццё нацыянальнай тоеснасці моладзі беларускага паходжання» (Ольштын — Варшава 2007). Доктар Аліцыя Сегень-Матыевіч працуе ў Вармінска-Мазурскім універсітэце ў Ольштыне, але наведвае Гайнаўку, з якой яна родам і тут праводзіла свае даследаванні. У кіназале Гайнаўскага белмузея спачатку распавяла яна пра правы нацыянальных меншасцей у Польшчы і запрэзентавала вынікі сваіх апытанняў, якія правяла з вучнямі першых, другіх і трэціх класаў Гайнаўскага белліцэя і іх бацькамі ў 2010 годзе. **Тычыліся яны нацыянальнай прыналежнасці апытаных, моў, на якіх размаўляюць яны дома і па-за домам і, між іншым, стаўлення белліцэістаў і іх бацькоў да магчымасці ўсталявання дарожных указальнікаў на польскай і беларускай мовах. 58% апытаных доктар Аліцыяй Сегень-Матыевіч вучняў складалі гайнавяне, а 42% жылі ў вёсках. Каля 35% апытаных гайнаўскіх белліцэістаў назвалі сябе беларусамі, каля 63% — палякамі, 0,6% — расіянамі і 0,6% — украінцамі. Каля 60% бацькоў белліцэістаў назвалі сябе беларусамі, а каля 40% — палякамі.**

— Выдатная большасць апытаных гайнаўскіх белліцэістаў былі ўжо польскамоўнымі, не размаўлялі на мясцовых гаворках. Іх бацькі былі ў большасці двухмоўнымі беларусамі, якія побач польскай мовы ўмелі размаўляць на сваіх гаворках. Калі глянуць на гісторыю і этнічнасць даследаванай тэрыторыі, то апытаныя вучні выводзіліся перш за ўсё з беларускіх сем'яў. Аднак у белліцэістаў з беларускіх сем'яў адбываецца працэс асіміляцыі да польскасці. Бацькі моладзі, якую я апытвала, мелі моцнае пачуццё сувязі з беларускай культурай, беларускімі гаворкамі, якімі карыстаюцца і сваёй малой айчынай. Іх дзеці ў большасці мала дацэньвалі значэнне двухмоўнасці бацькоў. Аднак наша двухмоўнасць з'яўляецца нашым багаццем, яна нас узбагачае і мы павінны яе шанаваць і перадаваць з пакалення ў пакаленне. Трэба нам змагацца за захаванне беларускай мовы, беларускай культуры і нашых традыцый. Мы не павінны саромецца сваёй гісторыі, сваіх традыцый, бо без сваёй ідэнтыфікацыі будзем засыхаць, так як засыхае дрэва з засохлым карэннем. Веданне беларускай мовы не перашкодзіць, а толькі дапаможа лепш вучыцца замежным мовам і іншым прадметам, — сказала доктар Аліцыя Сегень-Матыевіч.



Сустрэча з доктар Аліцыяй Сегень-Матыевіч тычылася нацыянальнай тоеснасці і двухмоўнасці ў сем'ях гайнаўскіх белліцэістаў



У 2015 годзе доктар Аліцыя Сегень правяла чарговыя размовы ў частцы сем'яў, якія апытвала на Гайнаўшчыне ў 2010 годзе і на іх падставе кажа, што асіміляцыйныя працэсы сярод ужо цяперашніх выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя ўзмацняюцца, а бацькі захавалі сваю нацыянальную свядомасць на ўзроўні 2010 года. Ажно 100% апытаных гайнаўскіх белліцэістаў, якія лічылі сябе беларусамі і 48% вучняў белліцэя, што назвалі сябе палякамі, станоўча паставіліся да магчымасці ўсталявання на ўскраінах сваіх мясцовасцей дарожных указальнікаў на польскай і беларускай мовах, што было ўведзена ў Арлянскай гміне. Многія бацькі белліцэістаў таксама станоўча ацанілі магчымасць усталявання двухмоўных указальнікаў. Прыхільнікі гэтай ідэі перш за ўсё заяўлялі, што назвы мясцовасцей адначасна на польскай і беларускай мовах сведчаць аб беларусах, якія тут жывуць і з'яўляюцца атракцыёнам для турыстаў, што ў выніку можа даць заробак для мясцовага насельніцтва.

Настаўнікі беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя самі бачаць, што іх вучні перш за ўсё польскамоўныя і частку іх трэба пачынаць вучыць беларускай літаратурнай мове з нуля. Настаўнікі беларускай мовы пачатковых школ Гайнаўскага павета (гэта тычыцца таксама іншых паветаў) кажуць, што цяпер мала дзетак умее гаварыць на мясцовых дыялектах, якімі карыстаюцца жыхары паасобных вёсак Гайнаўшчыны. У час школьных перапынкаў дзеткі паўсюдна размаўляюць паміж сабой па-польску. Настаўнікі заяўляюць, што перш за ўсё цяпер трэба зацікавіць вучняў заняткамі беларускай мовы, каб бацькі малодшых дзетак таксама хацелі запісаць іх на ўрокі беларускай мовы, паколькі адбываюцца яны на прынцыпах добраахвотнасці. У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы згодна са статутам школы адукацыя па-беларуску ў белліцэі і белгімназіі з'яўляецца абавязковай.

— Зараз бацькі запісваюць дзяцей на ўрокі беларускай мовы ў пачатку адукацыі ў пачатковай школе таксама з думкай, што іх дзіця ў будучыні можа будзе вучыцца ў Гайнаўскім белліцэі, дзе вучоба па-беларуску з'яўляецца абавязковай, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ № 3 у Гайнаўцы Людміла Грыгарук падчас апошніх Мастацкіх сустрэч школьнікаў.

Калі лік навучэнцаў беларускай мовы ў вясковых школах падае, скарачаецца таксама субвенцыя на арганізаванне там адукацыі па-беларуску. Бывае, што гмінныя ўлады (так было ў Гайнаўскай гміне) просяць дырэктараў школ і настаўнікаў беларускай мовы заахвочваць бацькоў запісваць дзетак на заняткі роднай мовы. Распавяла аб гэтым прысутная на сустрэчы ў белмузеі войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч. Яна разам з дырэктар Комплексу школ у Дубінах Алінай Гінэт арганізавала ў школе шматлікія спатканні з цікавымі асобамі. У выніку лік навучэнцаў беларускай мовы ў Дубінскай школе пабольшаў, а з гэтым пабольшала таксама грашовая субвенцыя на адукацыю ў гэтай школе.

— У нашай школе ў Белавежы беларускай мове вучацца дзеткі з беларускіх і польскіх сем'яў. Складана заахвоціць новых дзетак да вучобы па-беларуску і трэба старацца, каб заняткі беларускай мовы былі разнароднымі і цікавымі, — лічыць Анджаліна Масальская, якая вучыць беларускай мове ў Белавежы.

Арганізуючы апошнімі гадамі ў школе беларускія вечарыны, настаўніца Анджаліна Масальская паказвае бацькам тое, чаму навучыліся яе вучні, а запрашаючы на іх цікавых людзей, можна заахвоціць чарговых бацькоў, каб запісвалі дзетак на ўрокі беларускай мовы. Апякунка калектыву «Званкі» Гайнаўскага дома культуры Вера Масайла сказала ў белмузеі, што яе вучні выступаюць на беларускай літаратурнай мове, але таксама на мясцовых дыялектах.

— Удзельнікі калектыву «Званкі», якія вучацца ў гайнаўскіх школах, выступаюць на беларускай літаратурнай мове і на гаворцы. Гэта складана, бо вучні цяпер ужо не ўмеюць гаварыць па-свойму. Я вучу іх вымаўляць паасобныя словы, вучні паўтараюць іх і так вучацца гаварыць сваю партыю выступу, — сказала Вера Масайла, былая настаўніца Прадшколля № 3 у Гайнаўцы.

— Я падчас вясковых сходаў пытаюся як гаварыць — па-польску, ці па-свойму і заўсёды знойдзецца нейкі мужчына, які крыкне — «па-свойму» і я гавару тады на сваёй гаворцы. У нашай гміннай установе беларуская мова была ўведзена ў якасці дапаможнай у кантактах з насельніцтвам. Калі старэйшыя жыхары нашай гміны пачынаюць гаварыць да чыноўнікаў на сваёй мове, то тыя таксама размаўляюць з імі па-свойму, — гаварыла войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч. — Я нядаўна наладзіла сустрэчу для сеніёраў у Гмінным цэнтры культуры ў Дубінах, дзе выступілі дзеткі з Прадшколля № 1 у Гайнаўцы з пастаноўкай «Квашанне капусты». Іх выступ спадабаўся таксама таму, што малыя дзеткі спявалі на літаратурнай беларускай мове, а размаўлялі на гаворцы. У Пачатковай школе ў Новым Корніне нядаўна была ладжана «Куцця» ў школьнай сям'і і яна адбывалася на дзвюх мовах, аб чым сёння мы размаўляем.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Новы год сустракалі ў „Бора-здруй"

Агратурыстычная гаспадарка „Бора-здруй" у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ўсё больш прыцягвае турыстаў і не толькі іх. Вядзе яна шматбаковую дзейнасць. Тут адбываюцца, між іншым, Сустрэчы „Зоркі" і літаратурны семінар „Бязмежжа" з удзелам пісьменнікаў, перакладчыкаў, выдаўцоў ды журналістаў з Беласточчыны і Беларусі. Ужо некалькі гадоў тут адбываюцца навагодня балі з удзелам турыстаў з нашай дзяржавы і нават з замежных краін (у мінулым годзе былі яны з далёкай Сібіры).

Сёлета Новы 2017 год у „Бора-здруй" віталі перш-наперш сем'і з Беластока (з жыллёвага пасёлка „Сонечны сток" і з цэнтра горада) ды з Новага Ляўкова, значыць тутэйшыя, мясцовыя. Баль пачаўся а гадзіне 20 і закончыўся наступнага дня пасля трэцяй гадзіны раніцы. Бавіліся моладзь і старэйшыя пары. Панавала прыемная сардэчная атмасфера. Усе хутка пазнаёміліся. Разам з гасцямі сядзелі за сталом і танцавалі Людміла і Барыс Казлоўскія, гаспадары „Бора-здруй". Спадар Барыс быў у добрым гумары і расказваў анекдоты, якіх процьма ў ягонай галаве. Мае ён выключную памяць і дар расказчыка.

Былі танцы па заказе ў дыджэя, які таксама пераказваў навагоднія зычэнні-віншаванні ўдзельнікам мерапрыемства. Па прасторнай зале плылі прыгожыя мелодыі, між іншым, польскія, беларускія і ўкраінскія. Апоўначы ўдзельнікі балю адкрылі шампанскае і пераказалі сабе найлепшыя зычэнніі ў сувязі з наступаючым новым годам. У небе ўспыхнулі феерверкі. У Новым Ляўкове радасна і гучна вітаюць Новы год. У гэтым прыгожым месцы (тут прасторныя лугі, невялічкая рачулка Баброўка і прыватны сасновы лес), дзе даволі далёка за вёскай знаходзіцца „Бора-здруй" вясёлая і галосная кампанія нікому не перашкаджае. Няма бліжэйшых суседзяў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Святочная «Ніва»

Традыцыйна штогод удзельнічаю ў распаўсюджванні святочнага нумара «Нівы». У Чаромсе пасля ліквідавання кіёска «Рух» распаўсюдам тыднёвіка займаецца пошта. Шчыра прызнаюся, што ў чаромхаўскім асяроддзі беларускамоўнай газетай цікавяцца нешматлікія. Толькі перад Калядамі «Ніва» карыстаецца вялікай папулярнасцю, а гэта па прычыне календара з царкоўнымі святамі. Цягам гадоў я з'яднаў некалькі дзясяткаў пастаянных пакупнікоў. У мінулых гадах браў я па семдзесят экземпляраў. Разыходзіліся. Сёлета заказаў сто экземпляраў. Да канца снежня разышлося больш за восемдзесят экземпляраў. Па прычыне не найлепшага здароўя я сам не займаюся распаўсюджваннем. Выручае мяне дачка Ірэна. У яе лепшыя магчымасці. У гэтым годзе цягам двух дзён прадала больш за шэсцьдзясят экземпляраў. Найбольш разыходзіцца на рыначку ў пятніцу, затым у Гмінная ўправе. Лічым яшчэ на тых, якія яшчэ не паспелі забяспечыцца ў «Ніву» з календаром. У мясцовым маркеце «Левіятан», як сказала яго загадчыца, пастаўка святочнага нумара была невялікая (каля 15 экз.) і ўсе разышліся. Таму зацікаўленых набыццём «Нівы» будзе яна адсылаць да дачкі, якая даступная штодзень пад тэлефонам. І нікому не адмовіць. Падвязе «Ніву» з календаром пад указаны адрас у назначаны тэрмін.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Яўрэйскія ўспаміны са ссылкі ў Сібір

**У чэрвені 1941 года саветы вывезлі з Орлі ў Сібір пяць сем'яў, у тым ліку яўрэйскую сям'ю Вайштынаў — уладальнікаў зямельнага маёнтка і кафлянага завода. Трапілі на поўнач Казахстана, затым удалося перасяліцца ва Украіну, а пасля вайны апынуліся ў Ніжняй Сілезіі, адкуль эмігравалі ў Ізраіль, у Хайфу.**

Сара Аўні з роду Вайштынаў была апошняй жывучай яўрэйкай, якая выводзілася з Орлі. Да вайны разам з сястрой Любай вучылася ў гімназіі Друскіна ў Беластоку. Іх бацька з ягоным братам завяршылі штудыі ў Пецярбургу і пазней заснавалі кафляны завод. Орля змянілася з сельскай мясцовасці ў прамысловую, дзе палова яе жыхароў жыла з працы ў кафлярні.

Шэсць гадоў таму Марк Хмялеўскі, солтыс Орлі і грамадскі дзеяч, разам з кінааператарам Радаславам Гембічам наведалі Сару Аўні ў Ізраілі. Вынікам паездкі з'яўляецца шматгадзінны мультымедыйны запіс успамінаў Сары Аўні.

* * *

Маё дзяцінства прайшло ў Беластоку і Орлі, але цяпер, на старыя гады, вяртаюся ўспамінамі больш у Орлю чым у Беласток, думаю пра яе і тужу па ёй. Мабыць таму, што я вельмі захаплялася прыродай і любіла наведваць Орлю, калі пачынаў цвісці бэз і паланіла акацыя. Быў вялікі прыгожы сад, столькі там было закуткаў, дзе можна было схавацца і пагуляць. І гэта ў адзін дзень прапала быццам мыльны пузыр.

Мой бацька быў адным з чацвёркі братоў, якія былі ўласнікамі кафлярні і зямельнага маёнтка. Памятаю шчаслівае дзяцінства ў атмасферы дабрыні і любові. Гэтыя ўспаміны, гэтыя пробліскі, падбадзёрваюць чалавека і ўсяляюць у яго волю жыцця.

Настаў час, калі загаварылі пра вайну. Мы, дзеці, з цікавасцю чакалі розных падзей, не ведаючы што такое вайна і якія паслядоўнасці можа яна прынесці.

1 верасня 1939 года нямецкае войска ўступіла ў межы Польшчы і пасля двух тыдняў з'явілася ў нас, у Орлі. Пераязджаючы цераз наш маёнтак, затрымаліся і сказалі, што сюды прыйдзе Расія. Не надта мы ведалі, пра што яны гавораць, але сталі спадзявацца ўсяго.

Пасля тыдня немцы адступілі, а пасля двух тыдняў увайшлі саветы. Старэйшых дзядзькоў Ізраіля і Самуіла адразу выселілі з дамоў, а дзядзьку Аўрама і нашага бацьку пакінулі, каб надалей вялі фабрыку. Нас, дзяцей, адправілі ў Бельск вучыцца і так было да Каляд. На свята мелі мы ехаць дадому, нанялі нам месца на фурманцы, якая курсіравала між Бельскам і Орляй; вазілі ёю розныя тавары і бедная каняка ледзь цягнула той воз. Раптам насупраць нас над'ехалі нашы прыгожыя, лакіраваныя сані, з запрэжанымі нашымі выязнымі конямі ў кракаўскай вупражы, спецыяльна заказанай бацькам. У іх сядзеў наш новы загадчык Лейкін (таксама яўрэй — М. М), які ехаў як не камуніст, а як сапраўдны буржуй пад дзядзькавым футрам. І ў тую хвіліну адчула я страшэннае прыніжэнне, прадчуваючы, што нешта памянялася і што мінулае ўжо не вернецца.

Прыехалі дадому, а па двух днях завітаў да нас г.зв. завадскі камітэт і загадалі нам пакінуць дом. Нашу бабулю прыняла да сябе пад апеку нейкая сям'я. А трэба ведаць, што ў той час у Орлі было нямнога кватэр, бо ў 1938 годзе ўспыхнуў там вялікі пажар і мясцовасць была ў стане адбудовы, будынкі былі ў сырым стане, немагчыма было зняць кватэру. Мы выехалі ў Беласток, дзе былі дзедка з бабуляй, і дом. Але гэта не было найгоршае.

У сакавіку сталі праводзіць г.зв. пашпартызацыю. Бацька, народжаны ў Орлі, мусіў туды падацца, каб атрымаць новы пашпарт. І заехаў да свайго брата Аўрама, акурат у момант арышту дзядзькі, дома былі энкавэдысты. Бацька ўзяў сваё паліто і хацеў выйсці, але яго спыталі, хто ён. „Ага, ты брат Аўрама Вайштына, мы цябе здаўна шукаем, ты таксама арыштаваны". Калі мама пра гэта даведалася, спрабавала яго ратаваць. Паехала ў Орлю збіраць паказанні рабочых, што ён быў добрым гаспадаром, што не здзекаваўся, што ствараў ім добрыя ўмовы. Але саветы такога не прымалі пад увагу.

13 красавіка грукаюць у дзверы дзедкавай хаты: „Адкрывацы, НКВД!". А дзедка цераз дзверы пытае, каго яны шукаюць. „Мы шукаем Сару і Любу Вайштын". „Гэта ж яшчэ дзеці", — сказаў дзедка. „А мы мусім перавезці ў далейшыя мясцовасці, бо Беласток знаходзіцца менш чым сто кіламетраў ад граніцы". „Але ж яны самі, без бацькоў..." — „Спаткаюцца на вакзале".

Узялі наплечнік з дзвюма коўдрамі і падушкамі. Я ўзяла сваю сумку з кніжкамі, быццам гэта было найважнейшае для жыцця. Помню, што падбегла да малога століка і з альбома выцягнула здымак бацькі і ўсунула яго ў кішэню. Пасадзілі нас у грузавік і апошні эпізод, які мне запамятаўся, гэта заплаканыя твары бабулі і дзядулі, якіх ужо больш не давялося бачыць. Памахала ім рукою; так як у кінафільме, аднак гэта была рэчаіснасць, вельмі сумная.

Завезлі нас на таварны вакзал у Беластоку. Пасадзілі ў такія „цяплушкі", у таварныя вагоны. Там былі ўжо сем'і вайскоўцаў, паліцэйскіх, чыноўнікаў. Нашых бацькоў там не было і мы самі падаліся ў падарожжа. Як цягнік рушыў, ахапіла настальгія, усплыў гімн „Boże, coś Polskę..."; і аддаліся пад Божы пакроў.

Спыніліся ў Мікашэвічах, на ранейшай граніцы. Ноччу прыехаў яшчэ адзін транспарт і мы пачулі з пераклічак, што там людзі з Бельска-Падляшскага. Мы рашылі даведацца, ці там няма каго з нашых знаёмых. Была там сям'я Бархатаў. Калі мяне падсадзілі да малога закратаванага акенца, заўважыла Грынявіцкага, загадчыка бельскага вакзала, які знаў нашу сям'ю. Ён сказаў, што наша мама ў другім вагоне. Мы пачулі кліч мамы: „Люба!", пасля якога мая на тры гады старэйшая за мяне сястра самлела. Я, хаця малодшая, была мабыць больш даверлівая і баялася менш. І адразу запатрабавала сустрэчы з загадчыкам эшалона. Паведаміла яго, што ў суседнім вагоне едуць мама з цёткай і просім, каб яны перайшлі да нас. Загадчык прыйшоў да нас пад вечар і паведаміў, што толькі мы можам пайсці да іх. І мы пайшлі. Так пачалася наша падарожжа, якое доўжылася два тыдні. Побач нас апынулася яшчэ адна яўрэйская сям'я з Зэльвы, вельмі пацешная — апрача мужа і жонкі ехалі яшчэ дзве глухаватыя бабулькі. Адна з іх дапытвалася, куды едзем. Мужчына дзеля спакою адказаў, што на летнішча. Пасля двух тыдняў падарожжа яна, расчараваная, дакарала яго: „А ці не мог ты знайсці бліжэйшага летнішча?".




Фрагмент мемарыяла ў Трэблінцы

Фота Аляксанра ВЯРБІЦКАГА

Везлі-везлі, аж прывезлі ў мясцовасць Еркендык у паўночным Казахстане. А там невыносны ландшафт — ніводнага дрэва, толькі стэп. Від прыгнятальны — быццам скончыўся свет: толькі неба і стэп. Да таго ж тамашнія людзі не ведалі ні слова па-руску, немагчыма было з імі дагаварыцца, і твары ў іх іншыя. Завялі нас у шалаш-зямлянку. Было там толькі некалькі дошак і на іх праходзіла жыццё. Апрача ляпёшак і чаю не было ніякай іншай ежы. І кароста. Цёця з мамай рашылі, што мы не можам там заставацца, толькі мусім знайсці нейкі іншы пасёлак, дзе можна было б дагаварыцца па-руску. І каб там была нейкая цыбуля, памідоры, бо мама баялася, каб не захварэць цынгай. Добра, што было ў нас крыху шмоткаў, якія можна было памяняць на яду.

Цётка была вельмі дзелавой жанчынай — выхадайнічала дазвол паехаць у раён і там прасіць згоду на перасяленне, каб мы маглі хадзіць у школу. Гэтага дзецям перасяленцаў не забаранялі і мы перасяліліся ў расійскі пасёлак.

Тады яшчэ мы кантактаваліся з роднымі, да 1941 года. Дзедка прадаў серабро, якое ў яго асталося, і пасылаў нам грошы. І пісаў пісьмы: „Мы сядзім на вулкане і не ведаем, што нас чакае. Нам вельмі цяжка, але веру, што Бог дазволіць вам выжыць, бо вы вельмі далёка". Ён не ведаў, што тут многа людзей памірала ад голаду, хвароб і іншых прычын.

У чэрвені 1941 года Германія напала на Савецкі Саюз і абставіны памяняліся карэнным чынам. Усіх маладых мужчын адразу змабілізавалі ў армію. Нас таксама прызначылі да цяжкай працы — перавезлі на будову чыгуначнай лініі ў напрамку Чэлябінска; гэтую лінію будавалі польскія ссыльныя. Пасля падпісання дамовы Сікорскі-Сталін усіх палякаў мелі вызваліць з турмаў. Нашага бацьку таксама звольнілі з лагера і ён прыехаў туды, дзе нас ужо не было. Усё ж такі нас знайшоў; быў аднак так духова прыгнечаны, што баяўся нават свайго ценю.

працяг ☞ 5

**У 2016 годзе ў мінскім выдавецтве „Лімарыус” выйшла выдатная кніга ўспамінаў і лістоў вядомага беларускага гісторыка Мікалая Улашчыка „Даць народу гісторыю”. Кнігу склалі беларускія гісторыкі літаратуры Аляксей Каўка і Міхась Скобла.**

Новае выданне

# Супрасльскі манастыр

## на старонках кнігі Мікалая Улашчыка

Мікалай Улашчык (1906-1986) быў даследчыкам беларускіх летапісаў. Усё жыццё ён займаўся вывучэннем нашай айчыннай гісторыі, але пры жыцці ў Беларусі не выдаў ніводнай сваёй кнігі. Парадокс лёсу — адзін з найлепшых беларускіх гісторыкаў аказаўся на Бацькаўшчыне незапатрабаваным. Тым не менш, тое, што Мікалай Улашчык напісаў, прыйшоў час апублікаваць, аддаць на суд чытачоў.

У кнізе „Даць народу гісторыю” на 560 старонках змешчаны ўспаміны аўтара, лісты яго і да яго, з пачутага і запісанага Улашчыкам, паказанні арыштаванага Мікалая Улашчыка падчас следства па справе „Саюза вызвалення Беларусі”, выпіскі з пратакола Калегіі АДПУ і г.д.

Сярод усіх матэрыялаў на старонках кнігі прыгадваецца і Дабравешчанскі праваслаўны манастыр у Супраслі на Падляшшы. Цяпер ён знаходзіцца ў юрысдыкцыі Польскае аўтакефальнае праваслаўнае царквы. У свой час манастыр быў адным з цэнтраў старабеларускага праваслаўя і пісьменства. Згадак у кнізе не так і шмат, але яны даволі цікавыя і на іх могуць звярнуць увагу тыя, хто займаецца даследаваннем манастыра ў Супраслі.

У раздзеле кнігі „Казаў Улашчык: з пачутага і запісанага”, што пры жыцці запісаў ад гісторыка Аляксей Каўка, на старонцы 349 напісана: „Баброўскі Міхал — Лабынцаў (Юрый Лабынцаў — расійскі літаратуразнавец, кнігазнавец, гісторык культуры — С. Ч.) падтаў ж ім цікавіўся. Таксама з уніятаў. Быў канонікам, па-беларуску казанні гаварыў. Пятнаццаць моў ведаў. У старажытных тэкстах парушаўся як ніхто. Гэта ён у Супраслі натрапіў на рукапіс XII стагоддзя, знаны цяпер як Супрасльскі летапіс. Ды па свеце ў расцяроб пайшоў. Пачатак рукапісу — у Замосці, яшчэ частка — у Пецярбургу. Толькі нам гаспадарам — фігу. Так ці не скрозь з нашым багаццем”.




Мікалая Улашчыка заўсёды хвалявалі старажытныя беларускія рукапісы і кнігі. Ён пастаянна здзіўляўся і хваляваўся, што іх у сотні альбо ў тысячу разоў больш па-за межамі Беларусі, чым на Бацькаўшчыне. Пра гэта ён часта прыгадваў у лістах да сваіх сяброў, землякоў і калег.

10 красавіка 1976 года ў лісце да беларускага літаратуразнаўца Вячаслава Чамярыцкага пісаў: „Пачаў падбіраць матэрыялы да будучай манаграфіі пра летапісанне. У Супраслі ў свой час было некалькі „рускіх кронік”. Зараз прыпомнілася, што амаль ва ўсіх летапісах пішацца пра „рускую кроніку”. Здавалася, што гэта павінен быць Гіпацкі летапіс, але, можа, і не так. Трэба па магчымасці перабраць усе матэрыялы, якія адносяцца да Супрасля, без вялікай надзеі на што-небудзь станоўчае. Быў жа яшчэ Слуцкі летапіс, урывак з якога змешчаны ў АСД („Археографический сборник документов по истории Северо-Западной России” — С. Ч.), том 1. Наогул, дзе нашы багацці!..”.

Прыгадвае ў пісьме ад 17 красавіка 1984 года да народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча Мікалай Улашчык і Касьяна Вераміту: „У сярэдзіне XVI стагоддзя ў Супрасльскім манастыры сярод іншых была кніга Касьяна Вераміты. У 1920-я гады Сцяпан Некрашэвіч напісаў артыкул „Мова Касьяна Рымляніна Вераміты”. Па тым часе гэта быў крымінал першага рангу (напісаць артыкул пра сярэднявечнага аўтара), і Дудар (маецца на ўвазе беларускі паэт, крытык, перакладчык Алесь Дудар (1904-1937) —С. Ч.) у вершаванай форме выказаў, як ён гэтым абураны. Зараз мне трэба ў паказніку адзначаць, чым быў у свой час Вераміта, а я не ведаю...”.

Тут Мікалай Улашчык трохі памыліўся з назвай артыкула Сцяпана Некрашэвіча. Сапраўды, Сцяпан Некрашэвіч (1883-1937) даследаваў гісторыю беларускай мовы. І ў 1928 годзе напісаў грунтоўную працу „Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты „О уставах манастирских”. У гэтай працы Сцяпан Некрашэвіч упершыню прааналізаваў гэтыя рукапісны помнік з графічнага, фанетычнага і граматычнага бакоў. Паўстае і другое пытанне: чаму Мікалай Улашчык называе Касьяна Вераміта, а Некрашэвіч пісаў — Касьян Ераміта?.. Але гэта тэма іншага артыкула.

❖Сяргей ЧЫГРЫН

4☞працяг

# Яўрэйскія

## успаміны са ссылкі ў Сібір

Неўзабаве захварэў запаленнем нырак; памёр, не дажыўшы нават пяцідзесяці гадоў. Самі мы яго пахавалі, паставілі дошку на ягонай магіле, але пазней таго месца нават не знайшлі — затапталі яго каровы...

Палітычныя абставіны змяніліся. Мы ўсведамлялі, што Савецкі Саюз будзе мець уплыў на новую польскую дзяржаву. Паўстала новае польскае войска, наш сваяк завербаваўся да яго. Пра тое, што дзееца на тэрыторыі Польшчы, мы даведваліся ад байцоў, якія вярталіся з фронту. Ужо тады сталі мы траціць надзею, што ўдасца пабачыць хаця некага са сваіх блізкіх. Беручы пад увагу тое, што наш сваяк быў у арміі, мы, як сямейнікі вайскоўца, атрымалі дазвол пераехаць ва Украіну, дзе былі лепшыя ўмовы жыцця.

Мая мама там вельмі цяжка захварэла. Ад недаядання страціла дзве трэці сваёй вагі і лекар сказаў, што калі не пачне лепш харчавацца, то не выжыве. У нас захаваўся яшчэ мамін брыльянт — цётка ўзяла яго і паехала ў Кіеў на базар і прадала там яго яўрэю за сорак тысяч рублёў. Для нас быў гэта маёнтак — за тыя грошы купілялі мы многа прадуктаў і сталі карміць маму як гуску; і яна нейкім чынам акрыяла. Працавалі тады на цукровым заводзе і кінуліся есці той цукар, аж сталі ванітаваць. Нейкі чалавек, які таксама там працаваў, навучыў нас, як трэба харчавацца цукрам.

Аднойчы мы даведаліся пра рэпатрыяцыю ў Польшчу і рашылі вяртацца. Мама назапасіла цукар на дарогу, выносячы яго з завода ў ботах. Мы забраліся на першы транспарт рэпатрыянтаў, які ехаў у Польшчу. На першай станцыі, дзе мы спыніліся, нейкі савецкі афіцэр, таксама яўрэй, папрасіў адну яўрэйскую спявачку, каб заспявала нейкую яўрэйскую песню; і яна заспявала. А ноччу нейкія антысеміты сталі грукатаць у дзверы нашага вагона і крычаць, каб выдалі ім жыдоў, то яны іх выражуць. Гэта было жахлівае — вяртаешся на радзіму пасля такой вайны, а тут на прывітанне намагаюцца нас забіць. З намі была адна жанчына, не яўрэйка, якая выйшла да тых антысемітаў і заявіла: „Сынкі, я вам клянуся на імя Хрыста, што сярод нас няма жыдоў”; і яны тады адышлі. Камень нам з душы зваліўся, але ў памяці засталася стрэмка, што Польшча пряняла нас так негасцінна. Яшчэ пачула такую фразу: „Нам прывозяць жыдоў, а вывозяць вугаль”. Або колкае пытанне: „То яшчэ вас столькі засталося?”. Было вельмі непрыемна. А пасля быў пагром у Кельцах і гэта перапоўніла нашу чашу цярпення...

Працавала я ў яўрэйскім асяроддзі, прымала моладзь, якая пастаянна наплывала з Расіі. Знаёміла іх з сіянізмам, гаварыла пра будучую яўрэйскую дзяржаву, якая мае стаць нам айчынай. Пасля нейкага часу пераехала ў Францыю. Жылі там у прыгожай віле да часу зладжання марскога транспарту, які меў даставіць нас у Палесціну. На караблі, пабудаваным у XIX стагоддзі, паплыло нас восемсот чалавек. На моры спынілі нас англічане, бо Палесціна была пад брытанскім панаваннем і яўрэяў туды не прапускалі. Высадзілі нас на Кіпр, там пражылі цэлы год, там нарадзіўся мой першы сын Ясэк. Меў месяц, калі ў рэшце рэшт даехалі ў нашу краіну. І зноў трапілі на вайну. Спярша нас, рэпатрыянтаў, закватаравалі ў палатках пад Тэль-Авівам. Пасля прыехала цётка майго мужа, якая жыла ў горадзе побач Хайфы і забрала нас да сябе. Там жылі арабы, якія абстрэльвалі кожны яўрэйскі аўтобус. Было вельмі небяспечна і каб туды ўехаць, трэба было перасесціся ў бронемашыну... І так думала я, чаму я з адной вайны еду на другую...

З нашай сям'і амаль ніхто не выжыў. Са сваім мужам я пазнаёмілася ў дарозе і нашай мэтай стала новая сям'я. Зараз маю трое дзяцей, дзевяцера ўнукаў, пятнаццаць праўнукаў. Усе размаўляюць на іўрыце — так як марыў мой дзедка. Гэта мой найбольшы гонар. Не зрабіла я ніякай кар'еры — магла вучыцца, але найважнейшай у жыцці стала мне сям'я.

❖Спісаў Міхал МІНЦЭВІЧ

# Дэмаграфія Мельніцкай гміны

Мельніцкая гміна Сямятыцкага павета Падляшскага ваяводства займае плошчу 196 квадратных кіламетраў — гэта 13% тэрыторыі павета. Суседнія з ёю гміны: Нурэцкая, Сямятыцкая і Сарнацкая (яна на левым беразе Буга і ў іншым ваяводстве). Мельніцкая гміна мяжуе з Беларуссю (за ўсходняй мяжой знаходзяцца сельсаветы Агароднікі і Воўчын Камянецкага раёна). Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 35% плошчы гміны ды лясы — 59%. Ёсць тут Гара Ушэсце як запаведнік прыроды ды здаўных-даўна кар'ер крэйды (мелу).

У Мельніцкай гміне 23 мясцовасці, у якіх пражывае 2 535 чалавек (у 2004 годзе было 2 708). Шчыльнасць насельніцтва 13 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 109 жанчын. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын больш чымсьці мужчын у 2,5 раза.

Найбольшымі вёскамі ў гміне з'яўляюцца Мельнік (знаходзіцца ён на правым беразе ракі Буг), які налічвае 903 жыхары, Вілінава — 202, Машчона- Каралеўская — 197, Такары — 142, Няміраў — 140, Сутна — 138, Радзівілаўка — 107 і Аслова — 102. Да сярэдніх вёсак належаць Гамоты — 85, Кудэлічы — 80, Адамова — 76, Мацьковічы — 73, Мэнтна — 57, Вайкаў — 52, Паўлавічы — 46 і Аксютычы — 40. Самыя малыя вёсачкі гэта Конскія Горы — усяго 4 жыхары, Парэмбы — 5, Грабавец — 8, Альховічы — 13, Катэрка — 16 і Станковічы — 17. Зараз у забыццё адышлі мясцовасці Застава, Дэмбняк, Павалы і Жолэнднэ.

У 2016 годзе ў Мельніцкай гміне нарадзілася 16 дзяцей, памерлі 35 чалавек, у тым ліку 100-гадовы Ян Маркс з Мельніка, ды павянчаліся 17 пар. Медалі за шматгадовае шлюбнае жыццё атрымалі восем пар: Мікалай і Марыя Багушэўскія з Мельніка, Ян і Крыстына Кушнерчукі ды Станіслаў і Аліна Сачэўкі з Нямірава, Ян і Галіна Мішчукі з Сутна, Яўген і Ніна Пятроўскія ды Аляксей і Вольга Пагрэбнякі з Радзівілаўкі, Юзэф і Людміла Вёсны з Адамова ды Здзіслаў і Крыстына Тэрэса Залеўскія з Такароў. Віншуем юбіляраў!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Экуменічная сустрэча

22 снежня ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася экуменічная сустрэча. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Управа гміны і Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі. У сустрэчы ўдзельнічала каля шасцідзесяці чалавек, у тым ліку войт гміны Міхал Врублеўскі, старшыня Рады гміны Сяргей Смык, ксёндз каталіцкага касцёла Кшыштаф Дамарачэнька, а. Мікалай Беламызы з Чаромхаўскага прыхода і а. Рыгор Навумовіч з Кузаўскага прыхода, затым дырэктар Школьна-прадшкольнага комплексу Іаанна Гнатоўская і намеснік дырэктара Міраслаў Шатыловіч. З адпаведнымі сітуацыі прамовамі выступілі войт Міхал Врублеўскі і ксёндз Кшыштаф Дамарачэнька. У мастацкай частцы, падрыхтаванай школьнай моладдзю, прэзентавалася калядная сцэнка «Ясэлка» і калядкі. Пакуль удзельнікі приступілі да спажывання калядных страў, згаварылі малітву. Падрыхтаваннем пачастунку займалася школьная кухня, а арганізацыяй застолля — працаўнікі ГАСДа. Сустрэча праходзіла ў святочнай ды сяброўскай атмасферы. **(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

Фота Ганны Кандрацюк



Агата Усціновіч (першая справа) з сяброўкамі

*Агата* **УСЦІНОВІЧ**
Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

# *Мая бабуля*

Калі мая бабуля Вера расказвала пра сваё дзяцінства, я вельмі не любіла таго слухаць. Аднойчы яна расказала мне такую гісторыю.

Шмат гадоў таму мая бабуля была самай прыгожай дзяўчынай у вёсцы. Прыязджалі да яе вельмі багатыя хлопцы ў сваты. Маладая Вера не хацела, аднак, такіх пустых і некаханых кавалераў. Яе бацька ведаў, што яго дачка вельмі разумная і не выбярэ дурнога мужа. Маці ў Веры не было — яна памерла ў гады бежанства ў час першай сусветнай вайны.

Аднойчы да маёй бабулькі прыехаў малады, багаты і прыгожы мужчына Уладзімір. Ён быў вельмі закаханы і прывёз ёй вялікі букет ружаў. Вера не хацела, аднак, такога мужа, які прывёз ёй кветкі. Яна сама яшчэ не ведала, чаго хоча. Уладзімір сказаў ёй, што яна прыгожая, мудрая і цудоўная. Вера пачала размаўляць і сустракацца з Уладзімірам. Вельмі яго пакахала.

У 1943 годзе маладыя павянчаліся. Гэта быў вельмі цяжкі час, таму што была вайна. На шлюбе былі толькі бацькі Уладзіміра і бацька Веры. Жылі спакойна да 2016 года. Жылі як муж і жонка. Жылі як сябар і сяброўка. Жылі як дзед і бабуля.

Мая бабулька памерла. Гэтая гісторыя, якую мне расказала, была апошняй у яе жыцці. Бабуля перад смерцю сказала мне: «Ведаеш, чаму я не хацела іншых мужчын? Я чакала твайго дзеда!». Застаўся ад яе ліст Уладзіміру, у якім напісала, што ў мяшочку ляжаць пялёсткі ружаў, якія ён падарыў ёй пры першай сустрэчы. Яна хацела, каб у магілку пакласці ёй пялёсткі гэтых кветак.

Дамініка СІКОРА



Фота Міры ЛУКШЫ

**Дамініка СІКОРА**
Новая Воля, КШ у Міхалове

* * *

Дзесьці ў свеце
На адной планеце
Між пеклам і небам
Было малое стварэнне
Гэтак вельмі баязлівае
Гэтак вельмі слабое
Гэтак вельмі крохкае
Але
Было найбольш эгаістычнае
На гэтай планеце,
а нават у свеце
Што яму не пасавала,
што перашкаджала
Гэта знішчана,
Гэта забітае.
Усяго яму было мала
Было і забойства,
Калі ўлады яму не хапала
І там у свеце
На гэтай планеце
Жывуць такія пачвары
Усё ж і яны шукаюць
свайго сэнсу жыцця

## Анёл-Ахоўнік

Лятаў пры мне
мой Анёл-Ахоўнік
Але хіба згубіўся ўжо
Маё сэрца роспачна б'ецца
Разарванае на сотні кавалачкаў
Тужу...
Малюся: вярніся
На запясці маім белым
Лісты табе пішу
Гляджу пустым зрокам
Анёл, ты мой?
Вярніся да мяне
Малюся, памажы мне
Я хачу каб ты мяне забраў
Далёка ад гэтых
эгаістычных пачвар
Што раняць і забіваюць мяне
Анёл, ты мой?
Вярніся да мяне!
Ахоўвай мяне ад гэтага свету!

## Іншае

Жыццё ўсіх людзей рознае
Кожны чалавек
насупраць усяму
Іншы
У кожнага іншыя
рысы характару
Іншы знешні выгляд
Іншае жыццё
Гэтак як колеры — кожны іншы
Кожны гук іншы
Неба і пекла іншае для кожнага
Розніца вялікая
Але не ўсе гэтыя
розніцы бачаць
Але ці іншы гэта горшы?

## УВАГА КОНКУРС! № 02-17

**Той у зімку лютуе —**
**Мост нястомна будуе.**
**Гэты ломіць і гудзе,**
**за ім караван ідзе.**
**М....**
**(У. Мацвеенка)**

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 22 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 51: хамяк.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі** Дам'ян Карнілюк, Магдаліна Якубюк, Вікторыя Гаць **з Бельска-Падляшскага,** Марыюш Радзецкі, Магдаліна Люнда **з КШ № 1 у Гайнаўцы,** Мая Тапалянская, Марта Петручук **з Нарвы. Віншуем!**

## Як воўк захацеў войтам стаць
*(гуцульская казка)*

Аднаго разу выганяў гаспадар асла на папас і пайшоў дамоў. Аж тут галодны воўк бяжыць. Бачыць — асёл пасвіцца. «Ну добра, — думае воўк, — ужо не буду галадаць».

Убачыў асёл ваўка і думае: «Як бы ад яго зубалёў уцячы!»

Калі падбег воўк, асёл кажа:

— А я цябе шукаў!

— Навошта?

— Вось, — пачаў асёл, — у нашай вёсцы якраз выбары. Не могуць людзі вырашыць, каго паставіць войтам. Адзін газда прапанаваў цябе і ўсе далі згоду. Дык яны выправілі мяне, каб я цябе адшукаў і перадаў звестку…

— Ну, — кажа воўк, — тваё шчасце, што ты мяне сустрэў. Я вельмі рады. Сядай на спіну, паехалі ў вёску.

Вось і вёска. Асёл як зараве! Людзі павыбягалі з хат, глядзяць — воўк на асле едзе. Давай ваўка збіваць, каламі малаціць. Ледзь шэры не кіпнуў, бяжыць, кульгаючы…

Якраз у полі адзін газда сена складаў у капіцы. Убачыў ваўка і схаваўся пад капіцу. А воўк брыдзе і думае: «Каб мне да гэтай капіцы далезці, аддыхацца, палізаць раны».

Далез ён, лёг ля капіцы і ляжыць. І сам да сябе мармыча: «Бач, захацелася войтам стаць. Мой дзед не быў, бацька не быў, а мне закарцела. Не хапае, каб хто па рэбрах яшчэ аблажыў, тады б ведаў, як войтаваць…».

А газда слухае з другога боку капіцы, трымаючы вілы ў руках. Ды як урэжа ваўка! Ажно нядошлы войт ногі выпруціў.

***(пераклад з украінскай мовы Ганны Кандрацюк)***



Фота Міра Лукша

Нараўчанскія ўдзельніцы «Дэб'юту» з настаўніцай Аннай Кандрацюк

## Замкі і палацы Беларусі

### ЛІДСКІ ЗАМАК — ПАЛІТЫЧНЫ ЦЭНТР МІЖНАРОДНЫХ ТУСОВАК

Замак у Лідзе — з'явішча ў прамым і пераносным сэнсе. Ён высіцца ў цэнтры горада і з гордай дыстанцыяй пазірае на прадмесці Ліды. Мясцовыя людзі часта параўноўваюць будоўлю да дрымучага вулкана. Замак патрабуе саліднай рэстаўрацыі, таму большасць часу ён знаходзіцца пад замком. Здалёк напамінае «мёртвы» макет, які адсылае нас у змрочныя часы сярэднявякоўя. Аднак мяшчане, якія жывуць ля тоўстых і грозных муроў, ніколі не парвалі сувязі з легендарным мінулым будоўлі. Яны далей з прызнаннем і страхам распавядаюць пра цені продкаў, якія ноччу блукаюць па замкавым дзядзінцы, пра дзівосныя галасы і грукат, якія даходзяць са сцен, пра прывіды загінуўшых воінаў, якія прахаджваюцца замкавымі калідорамі.

Замак — частка тоеснасці гараджан. Крэпасць напамінае пра моц і веліч гісторыі.

Лідскі замак пабудаваны з тоўстых валуноў у 1323 г. легендарным князем Гедымінам. Ён выконваў ролю фарпоста Вялікага Княства Літоўскага перад Тэўтонскім ордэнам. Замак, як палітычны цэнтр, часта з'яўляўся арэнай



міжнародных тусовак. Тут праз нейкі час знайшоў прыстанішча легендарны Тымур, нашчадак Чынгісхана, які з дапамогай князя Вітаўта насіўся з намерам адваяваць трон Залатой арды.

Як большасць беларускіх крэпасцей, замак у Лідзе сваё мілітарнае значэнне згубіў пасля Паўночнай вайны (1700-1721). Будоўля аднак далей служыла грамадзе, тут працаваў суд, вырашаліся публічныя і гарадскія справы. У міжваенны час узнікла ідэя аднаўлення замка, тады забяспечыліся перад руйнаваннем сцены. Ідэя рэстаўрацыі працягваецца па наш дзень. Спачатку замак аднаўлялі аматары і энтузіясты беларускай гісторыі, а зараз з дапамогай прыйшлі спецыялісты. У планах адбудова казармаў, студні і сядзібы гарадскога старасты…

Лідскі замак, пасля паспяховай абновы, мае шанс стаць турыстычным атракцыёнам краіны. Але не толькі. Ён выдатна паўплывае на пачуццё гонару мясцовых людзей, якія ніколі не пакінулі надзеі ў новае жыццё цэнтральнай будоўлі горада.

**Зорка**

## Вершы Віктара Шведа



### Падаркі Ярка

Хлопцы пытаюць
Малога Ярка:
— Колькі ты маеш
Пад ёлкай падаркаў?

Згодна з праграмай
Для таты і мамы.
А я атрымаю
Ад Мікалая.

### Што купіць пад ёлку?

Маму спытаў Міколка:
— Што купіць табе пад ёлку?
— А калі зрабіць ты хочаш
Мне прыемнасць, мой сыночак,

Дык старайся ў школе бойка
Каб пазбыцца гэтай двойкі,
Што выпадкова ты магчыма
З матэматыкі атрымаў.

## Польска-беларуская крыжаванка № 02-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 50-16:**

Рай, год, вір, арт, боты, бераг, блог, мама, анод, дэсант, ха. Граб, бокс, бег, бор, тамат, выган, мох, прылада.

Узнагароды, фламастары, выйгралі **Бэата Касацкая, Магдалена Якубік** з Бельска-Падляшскага, **Магдалена Васілюк** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Кінга Вісьнеўская** з Шудзялава, **Анна Кендысь** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Віялета Смалюк, Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Аліўка Порац** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Boks | | | | | | |
| Zwierz | | Wosk / Trawa | Wojak | | Saturn | Teatr | | Wagon | Esej / Ar | |
| Pień bierwiono | | | | | | Awar / Sergio | | | | |
| Krok / As | | | | | Starzec | | | | | |
| | Góra lodowa | | | | | | | | | |
| | | | | | | | Och! | | | |
| Bakłażan | | | | | | | | | | |

айцец Міраслаў Філіманюк

*Жыццё прыгожае — юнацкае жаданне кахання*

*Жыццё прыгожае.*
*А ўсё-ткі часам*
*нуднае і агіднае.*
*Аднак колькі яно вартае,*
*даведаешся тады,*
*калі ўвойдзеш у смак*
*яго пладоў.*
*Праз іх мараль*
*ім не ўказаных.*

*І калі ён скажа:*
*Мой ты Ангел*
*прагну і хачу цябе...*
*Паслухаеш, пойдзеш*
*а ён вызначыць*
*табе месца.*
*Тады скажаш:*
*жыццё прыгожае!*

*Успамянеш словы*
*аб смаку раскошы*
*салодкай і чулай.*
*Аднак калі табе гэтага*
*не хопіць, словы*
*тыя запамятай:*
*Жыццё прыгожае!!!*

Таццяна Фалевіч

* * *

*Пра што задумалася ты,*
*о, жанчына з хмаркай суму*
*ў позірку і лёгкай усмешкай*
*на дзіцячых вуснах?*
*Людзі бягуць па свеце*
*ў мітусні спраў сваіх —*
*вялікіх і малых,*
*злых і добрых.*
*А ты паўтысячы гадоў*
*спыняеш іх —*
*на імгненне —*
*хмаркай суму ў паглядзе*
*і лёгкай усмешкай на*
*дзіцячых вуснах.*
*Яны паімчацца далей*
*у ашаломе суперважных*
*справаў,*
*гэтыя людзі.*
*І яшчэ шмат гадоў*
*і стагоддзяў*
*будуць мітусіцца на зямлі,*
*застываючы толькі на*
*імгненне*
*пад тваім позіркам,*
*ад тваёй усмешкі.*
*І цішком забіраць яе з сабой,*
*хаваючы ў тое месца,*
*дзе павінна быць сэрца,*
*пад офіснымі пінжакамі.*
*Здзіўляючыся, як магла*
*затрымаць іхні гон —*
*нават на імгненне!*
*Хмарка чалавечага суму*
*ў жаночым позірку*
*і лёгкая ўсмешка*
*на дзіцячых вуснах.*

Міхась АНДРАСЮК

# МІНІСЛОЎ

## У Войнаўцы

Сонца выходзіць з-за Старыны. Прабіраецца пад зямлёй, паміж пушчанскіх каранёў, разганяецца на ачышчанай да костачкі паласе польска-беларускай мяжы і ўзлятае па-над лес. За Вэрстокам, там, дзе на могілках стаяць каменныя і бетонныя крыжыкі, ізноў сыходзіць пад зямлю.

У Войнаўку сонца прыходзіць апоўдні, пасярэдзіне дня. Выходжу на вуліцу, стаю твар у твар з маім асабістым сонцам.

Войнаўка паміж усходам і заходам. Пасярэдзіне. Пакуль я ў Войнаўцы — я таксама пасярэдзіне. Паміж уваходам і зыходам. Усё яшчэ пасярэдзіне вечнасці.

## Слімак

У цёплым святле пасляпоўдня гляджу, як паўзе слімак. Высоўваецца з травы, падымаецца па лесвіцы. Сонца разбіваецца аб лязо далягляду, выкідваючы на вяршыні бяроз апошнія аскепкі святла, а ён паўзе, усяго сябе аддаўшы гэтай манатоннай вандроўцы. Дабіраецца на пляцоўку тэрасы, абмацвае ступнёй новую, нечакана адкрытую прастрань і накіроўваецца да стала. Узбіраецца па драўлянай назе, прапускаючы наперад сябе жвавыя рожкі цікавасці.

Пакуль дабярэцца на стальніцу, пройдзе ладны кусок слімачага жыцця. А на стале нічога асаблівага няма — голая роўнядзь, мёртвая цырата. І попельніца, у якой бязгучна згарае мой летні дзень.

Нічога не скажу слімаку. У тым, што на зямлі бывае цікавей чым у нябёсах, кожны павінен упэўніцца сам.

## Лета

Тут лета кароткае, як дзявочая сукенка. Спачатку саслізгваюць з вясны салатавыя шлеечкі траўня, какетліва казытаюць шчокі і падбародак, і чалавек усміхаецца праз сон. Але ж травеньскі сон — ён карацей за дзявочую таямніцу, што хаваецца за павеўнай шырмай сукенкі. І ўжо сонца ляціць заечым скачком па-над глыбокім дэкальтэ чэрвеня, абабягае пупок фастрыгай ліпеньскіх промняў і завяршаецца лета дзесьці там, на палове сцягна крайком пазалочаных, жнівеньскіх дзён. Усё, што далей хаваецца ў першай восеньскай імгле.

Некалі лета заставалася тут даўжэй. Раскірэчыўшы ногі — шырока, на ўзмах пявучай касы — з раніцы да вечара хадзіла за бацькам у зялёныя лугі.

— Тата, чаму трава пасля смерці пахне? Пахне праз дзень і праз тыдзень пахне, і праз месяц. А чалавек — не.

— Пахне, бо ў свежых пракосах начуе сонца. Але ж не спіцца сонцу ў духмяную, летнюю ноч і да золаку, да світання, ад няма чаго рабіць, усе свае несаснёныя сны і ўсе свае лішнія, нескарыстаныя днём промні заплятае ў зялёныя сцяблінкі. У зялёныя косы заплятае. І ўсю зіму, і вясну жыве ў мёртвай траве пах лета.

Некалі лета заставалася тут даўжэй. Няспешна тапталася між палёў, вастраносым сярпом, скрадзеным у маладзіка-ветрагона, стрыгла светлыя валасы жніўня. Услед за летам сагнутая ў дугу бабуля заграбала ў запол сонечны жар, што тлее ў жытнім калоссі.

— Бабуля, а чаму на такой вялікай саломіне такі маленькі каласок?

— Калісьці, вельмі даўно, калі свет быў малады, а мо і цалкам малы яшчэ, як ты цяпер, жытнія каласы выраслалі наўпрост з зямлі. Цягнуліся высока, на чалавечы рост. Але чым шчыльней каласы наліваліся зернем, тым мацней разыходзіліся чалавечыя і Божыя сцежкі. «А я вас, людзі, пакараю голадам», — сказаў Бог. І прыклаў два пальцы да коласа там, дзе вытыркаўся ён з зямлі. І пабеглі Божыя пальцы ў верх, пакідаючы за сабой аголеную саломіну. А калі на саломіне засталося коласа не больш за пядзю, паднялі лямант сабакі: «Божа, мы з голаду загінем!». І зайшліся ад плачу каты: «Госпадзі, мы з голаду памрэм». Задумаўся Бог, уздыхнуў: «Ладна, гэты каласок пакідаю на вашу долю. Не пашкадуе вам чалавек хлеба, пражыве — пракорміцца і ён».

Тут лета кароткае, як дзявочая сукенка. Напярэдадні Усплення, калі крайком пазалочаных дзён завяршаецца жнівень, худая, бяздомная кошка выводзіць з патаемнай схованкі тройку пухнатых кацянят. Курняўкаючы, памяўкваючы, сунецца да маіх рук. Кацяняты губляюць смеласць, прыпыняюцца, няўпэўнена круцяцца — кожнае за сваім хвосцікам. Напалову дзікія, яшчэ памятаюць, што не кожны чалавек варты даверу.



## Рэчка

Праз высокую некась хлопчыкі пускаюцца бегма на рэчку. Высока ўзнятымі каленямі выштурхоўваюць неба з яго штодзённых, ліпеньскіх каляін. Неба падымаецца вышэй і далягляд разыходзіцца, як разыходзяцца кругі на вадзе, калі кідаеш камень у дрымучае возера. На адзін міг свет становіцца завялікім для хлапечых крокаў і злятае са ступняў, як чаравікі старэйшага брата. І хлопчыкі спатыкаюцца аб завялікі свет, звальваюцца ў высокую траву. Стаіўшы дыханне, расхіляючы пажаўцелыя сцяблінкі некасі, сочаць, як з паўднёвай сцяны ліпеньскага дня, на мяккіх, сонечных промнях дзяўчыны саслізгваюць на бераг рэчкі. Спадаюць на калені, на спіну і схапіўшыся далонямі за свой уласны смех, уздымаюцца на ногі. Дзявочыя пальцы камечаць крайкі сукенак, спешна сцягваюць іх праз галаву, альбо, расхіліўшы шлеечкі апускаюць уніз. І застываюць белымі фігуркамі ў зелені лугоў.

Не бывае ў свеце нічога прыгажэй за алебастравую бель дзявочай скуры на фоне зялёнай травы.

Некалі наўпрост з зялёных лугоў алебастравыя дзяўчыны заходзілі да мяне. Прабіраліся, пракрадваліся ноччу праз прыадчыненыя вокны кароткага, летняга сну.

Некалі заходзілі, цяпер — не. Не заходзяць з гэтага адвячорка, калі адным скачком я пераскочыў з берага на бераг, а рака пераўтварылася ў рачулку. І раніцой я зразумеў, што гэтая рачулка не даўжэй за маладосць. Выходзіць з крынічкі, што хаваецца ў дзікай траве і пакуль даспее, пакуль нап'ецца да сыта сонечнай медавухай, знікае ў халодным паўсвятле пушчы.

**— Я ішоў да Вас каля школьнага будынка. Ці Вы ведаеце, калі ён быў пабудаваны?**
— У 1936 годзе. Тады праводзілі ў вёсцы камасацыю, парабілі каленіі, адвялі гектар поля з пашкоўскага. І там тую школу рабілі, каб пасавала сёлам. Тут Тапчыкалы блізка, там Кошкі былі, і Градалі. І так яна прастаяла і вось так яна цяпер выглядае, — адказвае спадар Уладзімір.

**— Выгляд нехарошы, бо вокны дошкамі забіты.**
— Бо там шыбаў няма.

**— І ў гэтую школу хадзілі дзеці з найбліжэйшых чатырох сёл?**
— Як я хадзіў у гэтую школу, то яшчэ дзеці з Малліннік хадзілі, шмат хадзіла сюды — то Стэпанюкі, то Кулікі. І з Алекшаў, і з Дубяжына большыя хлопцы, падросткі, хадзілі.

**— Школа з аднаго боку, а з другога, здаецца, млын...**
— Так, гэта быў млын. Як я помню, то ён пры немцах ужо малоў. Быў Хведар Цар, ён паехаў у Амерыку, пабыў там некалькі гадоў; не ведаю, адкуль ён быў родам — ці з Дубяжына, бо там Цары ёсць, ці з Мокрага. Ён тут купіў участак поля ў Мартынюка і там паставіў млын. І доўгі час ён малоў. А пасля, вядома, завітала да яго старасць. Хата там, у яго стаяла, такая прыгожая, але потым ён яе прадаў да Тапароў; і цяпер там святліца. А тут памагаць яму не было нікога; быў у яго сын Януш, крыху за мяне старэйшы, і дачка Ірэна, то яны яшчэ ў мой час у школу разам хадзілі, на Белую, бо гаварылі, што школа на Белай. І так ён дамалоўся, што ўжо не было выхаду і прадаў той млын; купіў ад яго нейкі Лісіцкі з Гайнаўкі. А ён сам, Цар, купіў хату ў Бельску і так там дажываў. А раней, як тут тая партызанка настала, то яго яшчэ абрабавалі; свае хлопцы вечарам прыйшлі пераапранутыя. А ў яго было што браць, то ж то млын, які дзень і ноч малоў. А пасля, ад Лісіцкага яшчэ адзін купіў, Тэадорскі з Гайнаўкі, а пасля ўжо Бурак з Кошкаў купіў і тут хату паставіў, і электрычнасць правёў, бо раней млын на дровы быў, паравы быў. Той кошкавец купіў, крыху памалоў, а сітуацыя стала змяняцца, людзі перасталі хлеб у сябе выпякаць, бо хлеб гатовы прывозяць; і як мукі трэба то таксама прывязуць.

**— А да каторага года той млын малоў?**
— Здаецца, што, бадай, да 1960 года.

**— А здалёк прывозілі сюды збожжа малоць, бо ж Вы кажаце, што ён і дзень, і ноч малоў...**
— З Рыгораўцаў, з Москаўцаў, з Маліннік. І ў Орлі быў млын, большы, але Хведар Цар меў *молотя* многа.

**— Ад шашы адыходзіць дарога да Тапчыкал, а пры той дарозе могілкі...**
— Хаваюць там пакойнікаў з Пашкоўшчыны і Тапчыкал.

**— Каплічкі там няма?**
— Няма.

**— А калі хаваюць пакойніка, то выводзяць з хаты?**
— У нас з хаты. Увечары прыязджае бацюшка, моліцца. А рана служыць у царкве ў Орлі, людзі едуць на службу, без пакойніка. І як там адслужаць, то прыязджаюць сюды і адсюль выводзяць. За сялом стаяць вывадныя крыжы і там наступае развітанне з пакойнікам, якога далей вязуць на могілкі.

**— Цяпер я спытаю Вас пра іншае. На мапе каля вашай вёскі пазначаны курган. Ці Вы што пра яго ведаеце?**
— Я чуў, але ніхто з сяла ніякага там следу не знае. Але з другога боку вёскі, ад бельска-кляшчэлеўскай шашы, то ёсць г.зв. шведскія акопы. Гаварылі, што як шашу рабілі, то тыя акопы перацялі шашою. Нічога асаблівага там няма, толькі глыбокія равы, быццам траншэі. Тут праводзілі недзе каля дваццаці гадоў таму раскопкі, то знайшлі нейкія шпоры ці што. І там была таблічка стаяла, але знаеце, стоўп жалезны — то ж прыдасца...

**— А была калі ў вашай вёсцы крама?**
— Быў *склеп*, у 1950-х гадах, у прыватнай хаце; гаспадар і сам таргаваў, а тавары пастаўлялі з геэсу.

**— А як не было склепу, то куды вы за пакупкамі ездзілі, у Бельск?**
— Тут у Градалях быў *склеп*, яшчэ пры саветах *кооператив*.
— І ў Малінніках была крама, — дадае спадарыня Вера.

# Было ў Пашкоўшчыне



*Размова з Верай і Уладзімірам СОСНАМІ з Пашкоўшчыны.*


Млын у Пашкоўшчыне

— У Малінніках быў такі *склеп*, як і ў нас. А так то ўсё ж у Бельск. То яйкі, то масла вазілі. А калісь то што куплялі? Тры асноўныя рэчы: нафту, соль і запалкі, а ўсё іншае было ў прынцыпе свайго вырабу.

**— Можа яшчэ алей?**
— У Орлі было шмат алейняў, у жыдоў.

**— А як жыдоў не стала?**
— У Парцаве алейня была. Тут, на заходзе вайны, у Пашкоўшчыне ўсё згарэла. А паколькі мая матуля была з Парцава, то мы туды перабраліся. І там, цераз хату, сусед вырабляў алей. То ўсё туды ехалі, з Рудутаў многа людзей ехала. То я там усю тую работу бачыў. Прыязджалі, запрагалі каня ў манеж, была такая машына, што біла той лён. І было там асобнае памяшканне, і печ там была, а на той печы бак. І ён у той бак засыпаў колькі было трэба, а пад сподам гарэла, але была *кольба*, якою трэба было круціць, каб не прыгарэла. То я яшчэ, жэўжыкам, колькі там сядзеў і пакручваў. І як ужо дастаткова нагрэлася, то была такая кантовая форма, і тоўстае на два пальцы жалеза, і закладаў шматку, на тое некалькі мішак молатага лёну клаў. І зноў шматка і тоўстае жалеза, і зноў перасцілаў. І тых слаёў можа з дзесяць было. І быў такі свярдзёлак, якім укручвалася тое ўсё, націскалася, а збоку алей выцякаў.

**— Вы сказалі што вёска згарэла. Калі гэта было?**
— Як немцы адступалі, 27 ліпеня 1944 года. Прыехалі немцы танкам, мелі такія вехці, і хадзілі і пад кожную страху, падпальвалі. Асталося толькі шэсць хат, якія былі крыты дахоўкаю. А ўся рэшта цалкам згарэла. А калісь то якія тыя хаткі былі? Як я памятаю, то людзі ўсё камбінавалі, як тую хатку ацяпліць найменшым коштам. Гэта быў доўгі будынак: ад вуліцы стаялі коні, за конямі камора была, за каморай сені і далей такое агульнае памяшканне. А далей зноў авечкі і так далей. І такім чынам дзве сцяны былі ацеплены. І спалілі вёску так, што мала што можна было пазнаць. Помню як сёння — жэўжык у схове сядзіць, а тут клуня гарыць. І яшчэ адзін тапчыкалец прыйшоў і спаў у той клуні. І яго разбудзілі, ён выраваўся, без шапкі, то яшчэ па тую шапку палез... А тут і людзі з Тапчыкал былі, уцякалі сюды, куды хто мог, бо каля Тапчыкал яшчэ большыя баі ішлі; бо там за гарою немец стаяў, а тут, дзесь за Малліннікамі, саветы.

**— Кажаце, ездзілі ў Бельск, каб што прадаць ці купіць. А ў Орлю, Кляшчэлі?**
— У Кляшчэлях таксама рынак быў, але больш пасавала ў Бельск, бо бліжэй.

**— А ў Орлі рынку не было?**
— У Орлі, то чаго чалавек хацеў, то і так заходзіў. Гаварыў тата, што як ішоў у царкву, заходзіў раней да жыда і заказваў рубашку. Жыд браў мерку, а калі тата вяртаўся з царквы, то ўжо выраб быў гатовы. А там жа і селядцы былі, і алейняў шмат, і людзі з усім мелі выгаду. *Сапожнік* хадзіў па сёлах і чобаты рабіў, кравец з машынаю хадзіў ад хаты да хаты. Так што паслугі былі людзям надта выгадныя.

**— Дастаўлялі ўсё дадому, так як сёння аўтакрамы...**
— Гэтых *склепаў абвозьных* то нават і па пяць зразу прыязджае, — дадае спадарыня Вера.

**— Тут, недалёка ад вас, стаіць святліца; даўно яе паставілі?**
— А ўжо шмат часу, я святліцовай можа каля трох гадоў была.

**— А што святліцовая робіць у святліцы?**
— Ну, замесці трэба, пра вокны дбаць, фіранкі ўтрымоўваць, пасуду выдаць. Бо тут адбываліся то саракавыя, то ракавыя. І трэба было пасля ўсё памыць і парадак навесці, каб чыста было.

**— А толькі гасціны для ўшанавання пакойнікаў тут ладзілі?**
— Не толькі, таксама *уродзіны*, ці паправункі пасля вяселля.

**— А многа тут уродзін спраўляюць?**
— То гарадскія прыязджаюць, якіх род з Пашкоўшчыны.

**— А хрысціны?**
— У нас, у Пашкоўшчыне, то такіх малых няма; вось наша праўнучка, якой тры гады.
— Калісь хату, што на Крынічнай у Бельску стаяла, гміна вытрабавала, падбудавалі пустакамі і зрабілі святліцу, — кажа спадар Уладзімір.
— Можа з трыццаць гадоў яна ўжо тут стаіць, дадае спадарыня Вера.

**— Але яна выглядае вельмі свежа...**
— Бо годам раней яе адсвежылі.

*(працяг будзе)*

Пытанні і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Фінансаванне беларускіх культурных арганізацый на Падляшшы істотна скарочана

**Польшча на адну траціну зменшыла фінансаванне нацыянальных і этнічных меншасцей. Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі агучыла вынікі конкурсу для няўрадавых арганізацый на 2017 год, і па выніках многія культурныя мерапрыемствы беларусаў у Польшчы апынуліся пад пагрозай правядзення.**

Напрыканцы мінулага года на пасяджэнні Супольнай камісіі польскага ўрада і нацыянальных меншасцей быў прыняты праграмны дакумент, паводле якога Польшча ў 2017 годзе прызначыць столькі ж грошай на падтрымку меншасцей, як і ў 2016 годзе.

*— Замест абяцаных 16 мільёнаў злотых меншасці атрымалі, насуперак пастановам камісіі, каля 10 мільёнаў зл.,* — кажа сябра камісіі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства **Янка Сычэўскі**. *— Міністэрства вырашыла такім чынам, каб зусім не браць пад увагу таго, што прадугледжвала пастанова супольнай камісіі ўрада і нацыянальных меншасцей. Мы проста паралізаваныя. Мы 21 снежня былі на пасяджэнні Супольнай камісіі і гаварылі аб гэтым усім намесніку міністра і прадстаўнікам дэпартамента. Яны прамога адказу не мелі. Тым больш шокавая была сітуацыя, бо побач камісіі існуе кансультатыўна-дарадчая структура — гэта спецыялісты, прадстаўнікі розных нацыянальных меншасцей, якія заўсёды выказваюць свае меркаванні і пры дапамозе іх міністэрства бярэ пад увагу праекты, робіць селекцыі, класіфікацыі ўсяго і г.д. У гэтым годзе прадстаўніца камісіі паінфармавала, што ніякіх кансультацый не было, меркаванні гэтых спецыялістаў міністэрства не брала пад увагу, і яны нічога супольнага не мелі з распрацоўкай і падзелам фінансавых сродкаў на нацыянальныя меншасці.*

Без фінансавання МУСіА Польшчы засталіся шматлікія беларускія музычныя фестывалі — «Сяброўская бяседа» ў Гарадку, беларускія фестывалі ў вёсках і мястэчках.

*— Не атрымаў фінансавання і «Фонд царкоўнай музыкі» ў Гайнаўцы, які 14 гадоў праводзіў фестываль «Пэрэточа» ў Белавежы,* — кажа старшыня фонду **Мікалай Бушка**. *— Пасля 14 гадоў яго арганізацыі мы рыхтаваліся да сціплага юбілею. «Пэрэточэ» ў нашым рэгіёне — гэта мерапрыемства, якое найдаўней пачало ў рэгіёне прэзентаваць шматкультурнасць рэгіёна Белавежскай пушчы. Гэта мастацкая візітоўка культуры рэгіёна Белавежскай пушчы. У Белавежы мы прэзентуем культуры народаў, якія тут жывуць, для мясцовых жыхароў, а перш за ўсё для шматлікіх турыстаў з усёй Польшчы і з цэлага свету, якія сюды прыязджаюць. Мы памятаем, што тут найбольш пражываюць беларусы, і прэзентацыя культуры беларусаў у рамках «Пэрэточа» побач з другімі культурамі народаў, якія тут жывуць — гэта для нас вельмі важная справа. Такі быў сэнс мерапрыемства. Мерапрыемства без прэзентацыі культуры беларусаў не асвятляе культуры рэгіёна, не паказвае спецыфікі рэгіёна. Мерапрыемства без прэзентацыі культуры беларусаў губляе сэнс.*

Адукацыйны праект, які з 2004 года рэалізавала Аб'яднаньне бацькоў у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову ў Беластоку АББА таксама застаўся без падтрымкі.

*— У такіх умовах нам не ўдасца правесці этнаграфічнага летніка «Я нарадзіўся тут»,* — кажа намесніца старшыні аб'яднання АББА, настаўніца беларускай мовы **Аліна Ваўранюк**. *— Напэўна не зможам зрабіць летніка. Дакладней, не зможам зрабіць у такіх месцах, у якіх планавалі, бо гэта вялікія грошы. Да летніка крыху часу засталося, так што не такая праблема. Горшае, гэта нашы танцы і група «Падляшскі вянок», якая не так даўно пачала сваю дзейнасць. Дзеці за гэтыя пару месяцаў працы зрабілі шмат добрага: вывучылі танцы, а пачыналі з нуля, дзякуючы вялікай ангажаванасці Аксаны Прус, якая вядзе заняткі, і вялікай ангажаванасці бацькоў. Заняткі павінны пачацца пасля праваслаўных святаў у студзені. Заняткі праводзім два разы на тыдзень. На гэта не маем ні грошыка. Не ведаю, што з гэтым зрабіць.*

Прадстаўнік Беларускага саюза ў Польшчы ў Супольнай камісіі польскага ўрада і меншасцей **Славамір Іванюк**:

*— Паводле віцэ-міністра Себастыяна Хвалэка, гэта не канчатковае рашэнне, паколькі яшчэ засталося недзе 5-6 мільёнаў злотых з бюджэту на 2017 год. Так што ў гэтым годзе думаем, што яшчэ пойдуць датацыі на меншасці і гэтыя мерапрыемствы, якія запланавалі меншасныя арганізацыі і адбудуцца яны пры падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі. Але пакуль маем толькі абяцанне са слоў віцэ-міністра. Пабачым, як сапраўды будзе выглядаць бюджэт Польшчы, ці ён такі, як прадбачваецца, і тады меншасці недзе 15-16 мільёнаў злотых дастануць з міністэрства, ці гэты бюджэт будзе іншым.*

Больш як напалову міністэрства скараціла таксама фінансаванне праграм, накіраваных на беларускую меншасць у Польшчы ў эфіры Радыё Рацыя. Замест леташніх 250 тысяч на будучы год міністэрства вылучыла толькі 120 тысяч злотых.

**Зміцер КОСЦІН,**
Беларускае Радыё Рацыя

РУДАБЕЛЬСКАЯ ПАКАЗУХА

## http://rudobelka.wordpress.com

Ёсць у Беларусі мясціна, якая набыла асаблівую вядомасць падчас ліхалецця першай чвэрці мінулага стагоддзя. Гэта — Рудабелка, дзе пры нямецкай акупацыі ў Першую сусветную вайну, а потым і ў ходзе польска-бальшавіцкай вайны існавала так званая партызанская савецкая рэспубліка. Здаецца, за такую адданасць бальшавікі маглі б пакінуць паселішчу аўтэнтычную назву, аднак усё ж такі перайменавалі яго ў пасёлак Акцябрскі, зразумела, у гонар сваёй сацыялістычнай рэвалюцыі кастрычніка 1917 года.

Разам з тым назва „Рудабелка" не забылася мясцовымі жыхарамі, і моладзь, якая прагне, каб родны край жыў добра і „па розуме", выкарыстоўвае яе для розных сваіх праектаў. Адным з іх з'яўляецца сайт у інтэрнэце, які ўзнік у снежні 2016 года, і называецца „Рудабельская паказуха". Месціцца ён па адрасе **https://rudobelka.wordpress.com** і змяшчае зусім мала рубрык і не надта многа інфармацыі. Аднак гэта ніяк не ўмаляе яго карысці, бо нават тыя звесткі, што там размешчаны, даюць выдатнае ўяўленне аб жыцці ў Рудабелцы і навакольных вёсках.

„Група пра абсурднае і нязручнае жыццё мястэчка", — так называюць сябе стваральнікі і ўладальнікі сайта. І папярэджваюць тых, хто захоча раптам далучыцца да рудабельскіх праўдарубаў: „Увага! Перш, чым да нас запісацца, спытайце дазвол у начальніка. Мы не нясем адказнасці за ваша звальненне". Пры гэтым прыводзяцца словы пісьменніка Джорджа Оруэла — у часы ўсеагульнай хлусні казаць праўду — гэта экстрэмізм.

Практычна ўсё, пра што пісаў сайт „Рудабельская паказуха" цягам свайго першага месяца існавання, змешчана на галоўнай старонцы. Адметна, што кожнае паведамленне суправаджаецца відэа і фота, якія ў найлепшы спосаб прадстаўляюць і раскрываюць тэму. Магчыма таму, нягледзячы на вельмі малы час функцыянавання сайта, да інфармацыі, размешчанай на ім, звярталіся ўплывовыя незалежныя беларускія СМІ, напрыклад такія, як БелаПАН.

Асаблівай увагі карыстальнікаў вартыя відэасюжэты пра навакольныя ад Рудабелкі вёскі. Па вялікім рахунку, гэта зрэз праўдзівых расповедаў мясцовых жыхароў пра сваё жыццё і перспектывы. Асаблівая каштоўнасць такіх расповедаў, якія сабраны ў рубрыцы „Вёскі раёна", у тым, што яны перадаюць жыццё на Рудабельшчыне без прыўкрас і пустога расхвальвання. І ўсё гэта дзякуючы аднаму са стваральнікаў „Рудабельскай паказухі" актывісту Андрэю Павуку, які аб'ездзіў свой раён і шчыра паразмаўляў з вяскоўцамі. Адметна, што мясцовыя ўлады не маглі не заўважыць такой выкрывальніцкай дзейнасці і ў адказ пачалі ствараць свае відэасюжэты, зразумела, дэманструючы „распрыгожае" жыццё рудабельскіх сялян, а па сутнасці, пускаючы пыл у вочы, праўда, невядома каму. „Людзі павінны бачыць не толькі дрэннае, але і добрае", — патлумачыла карэспандэнтцы агульнабеларускай інтэрнэт-газеты Naviny.by акцябрская чыноўніца.

Варта адзначыць, што ідэя „Рудбельскай паказухі" з'явілася раней, чым узнік сайт. Пра гэта сведчыць старонка ў расійскай сацыяльнай сетцы „Одноклассники". Менавіта туды перанакіроўваюць нас гіперспасылкі на сайце, калі мы захочам, напрыклад, пазнаёміцца з карыснымі вынікамі дзейнасці групы за мінулы 2016 год.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Прайшоўшы пакуты XX стагоддзя

## 100 гадоў з дня нараджэння Віктара Ярмалковіча

Віктар Ярмалковіч, беларускі юрыст, гісторык, краязнавец, дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, нарадзіўся 4 студзеня 1917 г. у вёсцы Юшкі Віленскага павета (цяпер Астравецкі раён). Вучыўся ў гімназіі пры Друйскім кляштары айцоў марыянаў, Віленскай беларускай гімназіі, у 1940 г. скончыў Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя. Уваходзіў у Беларускі студэнцкі саюз, Беларускую хрысціянскую дэмакратыю, супрацоўнічаў з газетай „Крыніца", часопісам „Хрысціянская думка". У пачатку 1939 г. арыштаваны польскімі ўладамі, зняволены ў Вільні, у вязніцы спаткаў многіх знаёмых беларусаў. Потым этапаваны і зняволены ў Бяроза-Картузскі канцлагер. Там разам з іншымі беларусамі зазнаў здзекі. Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, прабіраўся з іншымі, пераважна пешшу, праз Кобрын, Брэст, Гродна ў Вільню. У верасні 1939 г. працаваў архіварыусам гарадской управы, потым следчым народнага суда ў Віленскім павеце і Вільні. У пачатку Другой сусветнай вайны нейкі час хаваўся ў родных Юшках, потым арыштаваны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, аднак як мясцовы жыхар вызвалены. Паехаў у Ліду шукаць працы. Працаваў там у гарадской управе. З восені 1941 г. — міравы суддзя Шчучынскага раёна. Працаваць было амаль немагчыма, на Лідчыне надышоў час паліцэйскага і акаўскага тэрору супраць беларусаў. У вайну Ярмалковіч ажаніўся, у ліпені 1944 г. выехаў са Шчучына ў Варшаву. Жыў там некаторы час у шваґра, перажыў бамбардаванне горада.

Пасля вайны Віктар Ярмалковіч застаўся і жыў у Польшчы, у Біскупцы, з 1945 г. працаваў у Ольштынскім судзе. Восенню 1949 г. арыштаваны органамі МГБ СССР і высланы ў вёску Усолле (Іркуцкая вобласць, Расія). У 1951 г. вярнуўся на Віленшчыну, працаваў настаўнікам польскіх школ, дырэктарам Старасельскай сямігодкі. У пачатку 1953 г. зноў арыштаваны і ў лютым прыгавораны да 25 гадоў пазбаўлення волі ў савецкім канцлагеры. Пакаранне адбываў у Кіраўскай вобласці (Расія). Пасля перагляду справы Камісіяй Прэзідыума ВС СССР восенню 1956 г. вызвалены і ў 1957 г. рэпатрыяваўся ў Польшчу. Працаваў дантыстам у горадзе Біскупец. Збіраў матэрыялы па гісторыі Беларусі, друкаваўся ў польскіх перыядычных выданнях, „Польскім біяграфічным слоўніку". Пісаў на беларускай (лацінкай) і польскай мовах.

Памёр 15 снежня 1987 г. У 1992 г. рэабілітаваны. Віктар Ярмалковіч пакінуў пасля сябе мемуары і навуковыя матэрыялы. Інстытутам беларусазнаўства ў г. Ляймен (Германія) выдадзены яго працы „Летапіс Віленскай беларускай гімназіі 1919-1944", „Прафесар Ежы Ахманьскі і гісторыя Вялікага княства Літоўскага, „Пазнавайма родны край. Ліда і Лідская зямля. Шчучынскі раён. Іўеўскі раён", „Права і дзяржава. Асноўныя паняцці права з нарысам гістарычнага развіцця дзяржаўнасці і права Беларусі", „З-пад віленскіх палёў", „На жыццёвых хвалях (успаміны)", „Меднікі", „Беларускі студэнцкі саюз (БСС) у Вільні", „Беларуская хрысціянская дэмакратыя", „Касцельная унія на Беларусі і яе лёс". Аўтар гістарычнага нарыса „Цярністы шлях Беларусі". У рукапісах засталіся працы „Крывы горад — Вільня", „Гісторыя Вільні", „Гістарычныя расказы пра падзеі на беларускіх землях у Хроніцы Мацея Стрыйкоўскага", „Усходнія славяне, Крывія, Русь", „Старажытная гісторыя Беларусі (да часу ўтварэння на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага)", „Кароткі нарыс царкоўнай гісторыі Беларусі" і іншыя. Працаваў над „Біяграфічным даведнікам беларускіх дзеячаў".

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Літаратурная Каляда

**Перадкалядны перыяд заўсёды багаты на ўсякія мерапрыемствы. Няйначай было і ў мінулым годзе. Асабліва ў Комплексе школ імя Элізы Ажэшкі ў Крынках. Супольна з Домам культуры і Гарадскім асяродкам сацыяльнай дапамогі наладзілі там дабрачынны кірмаш, спалучаны са святочным канцэртам у выкананні крынскага калектыву «Лотасы». Калядкі гучалі цягам цэлага кірмашу. Падбіралі іх і пускалі з камп'ютара гімназісты. Былі гэта польскія калядкі ў версіі дыска-пола.**

— Ці можаце ўключыць хаця б адну праваслаўную, — звяртаюся да малайцоў.

— Не, мы католікі і пускаем толькі каталіцкія, — насцярожыліся хлапчукі.

Такім чынам цягам цэлага мерапрыемства не прагучала ніводная праваслаўная калядка.

Сумна стала, думаю, не толькі мне.

Некалькі дзён пазней у той жа школе адбылося чарговае мерапрыемства — урачыстае падвядзенне Святочнага літаратурнага конкурсу. У школьнай бібліятэцы апрача аўтараў конкурсных прац паявілася дырэкцыя школы і любімы абсалютна ўсімі вучнямі ксёндз Пётр Васілеўскі. Вельмі мне хацелася запрасіць таксама некалькіх гімназістаў, у тым ліку хлопцаў ад каталіцкіх калядак. Праўда, яны якраз не ўдзельнічалі ў конкурсе і маім запрашэннем былі крыху здзіўлены, але гэта заўсёды лепшае, чым сядзець на ўроках. У бібліятэцы чакаў іх круглы стол з белым, льняным абрусам, праваслаўнай грамнічнай свечкай, запаленай у шклянцы з рысам, і хатнія пірагі. Шмат пірагоў, хапала, каб і на дарогу дахаты забраць. Вось такі святочны падарунак ад мяне — школьнай бібліятэкаркі. Сталыя наведвальнікі бібліятэкі Пётр Таўдуль і Амэлька Войшаль заняліся абслугай гасцей: кроілі пірагі, налівалі напіткі. Гэта дало мне магчымасць поўнай засяроджанасці на сутнаснай часткі сустрэчы. У конкурсе ўдзельнічалі дзеці з сем'яў з розным багажом жыццёвага і культурнага вопыту, што мела свой адбітак у конкурсных тэкстах. Усё-такі выступіў усеагульны назоўнік. У кожнага з аўтараў Божае Нараджэнне выклікае надзею і самыя лепшыя пачуцці. Амелька Войшаль з трэцяга класа пачатковай школы віншуе тых, якія яшчэ ніколі не святкавалі. Дакладна ідзе ёй пра адзінокіх, сумных людзей. Па-Амэльчынаму думаючы, свята толькі тады, калі табе добра і калі ты вясёлы. Пяціклаcнік Кацпер Бешчад у сваёй «Картцы са святочнага календара» піша пра бабулю. Яго найлепшым падарункам пад ялінкай, аказваецца, з'яўляецца не смартфон, толькі здароўе бабулі. У сваю чаргу Вікторыя Яновіч у «Нашай вігіліі» звяртае ўвагу на падарунак для бабулі — коціка Кайку, адзіную ўцеху бабулі, які знік у невядомых акалічнасцях і вярнуўся ў святочную ноч. Звычайна Вікторыя не верыць у Святога Мікалая, але дапускае думку, што, магчыма, святы браў у гэтым удзел, паколькі так моцна верыць у яго бабуля.





Малюнкі аўтарства Тані Малешы і Вікторыі Яновіч

Гаворачы пра падарункі, варта згадаць верш трэцякласніцы Юліі Пытэль. Абяцае яна асабіста дапамагчы кожнаму ў здзяйсненні мар. Дастаткова толькі ў святочную ноч паглядзець на зорку і выказаць жаданне, любое. У гісторыі з жанру фэнтэзі аўтарства чацвёртакласніц Зузі Гадлеўскай і Вікторыі Грыбок даведваемся, хто такі чалавек — гэта хтось, хто паважае людзей незалежна ад іх веравызнання і нацыянальнасці, хто любіць прыроду. Гераіня іх апавядання — нявеглівая Зося ўрачыста абяцае стаць чалавекам.

Адзін з хлопцаў ад каталіцкіх калядак чакаў, пакуль усе разыдуцца, каб запытаць, чаму я яго сюды запрасіла.

— Таму, што на зло, адказваюць толькі дабром, — пачуў у адказ.

А ніжэй, з найлепшымі пажаданнямі ўсім Чытачам, друкуем хвалюючы аповед канкурсанткі, сямігадовай Тані Малешы.

### Калядны падарунак Касі

У хатцы пад лесам жыла сабе маленькая Кася. Вельмі сумавала. Не было ў яе ні таткі, ні браціка, ні сястрычкі, а ў школе ніхто яе не любіў. Мама думала-думала як тут развесяліць адзіную дачушку.

— Падару ёй коціка, — сказала.

Прыйшлі Каляды. Мама з Касяй напяклі пірагоў з сырам, дрожджавых булак, зляпілі піражкі з капустай, нарэзалі салат «Аліўе», зварылі куццю з макам, змеленым у старой мясарубцы. Запрасілі на вячэру Бабулю, Дзядулю, Цёцю і дваюраднага брата Паўліка, з якім вельмі любіліся.

— Час на падарункі, — кліча весела Дзядуля і падае Касі вялікую каробку, з якой выглядае коцік.

— Які прыгожы, — захапляецца Кася і глядзіць на маму. — Цэлы белы з адной чорнай латкай на галоўцы, назаву яго Латка.

Мама таксама атрымала ад Касі падарунак. У дзяўчынкі не было шмат грошай, таму папрасіла ў бабулі старыя пацеркі. Выглядалі быццам сапраўдныя жамчужынкі. Разам з Латкай нанізалі іх на нітачку і атрымаліся сапраўдныя прыгожыя каралі.

Латка была вельмі разумная і ветлівая. Кася рашыла забраць яе ў школу, паказаць настаўніцы і калегам з класа.

І раптам усе яе палюбілі.

**Іаанна ЧАБАН**

# 08.01 — 14.01

**(22.03. — 20.04.)** Не забывайся аб старых памылках і атрымлівай ад іх правільныя высновы. 8-12.01. выкажашся паслядоўнасцю і моцнай воляй. Увесь час будуць цябе завальваць абавязкамі, але варта будзе працаваць больш, не бярыся толькі за абавязкі, якія табе не пад сілу, і заўсёды талкова адпачні. І не дай сябе ўвесці ў вострае саперніцтва. Удасца табе запанаваць над сітуацыяй. 11-14.01. могуць быць цяжэйшыя хвіліны ў пары.

**(21.04. — 21.05.)** Перад табою цудоўны месяц! 8-9.01. дасягнеш таго, чаго не ўдалося іншым. На працы найбольш удала 8-12.01. Пастаў на супрацоўніцтва, будзеш мець поспех. Адчыніш свае дзверы, сэрца і кашалёк перад блізкімі. Пераадолееш найбольшыя перашкоды. Але не аглядайся за сябе, няма чаго прыгадваць мінулае.

**(22.05. — 22.06.)** Крыху застою ў кампанейскім жыцці, дык будзеш мець час і ахвоту падаганяць хвасты на працы. У каханні неспакойныя хвіліны. Для Блізнят у свабодных парах пераломам можа стаць 12.01. На працы не ўсё пойдзе па-твойму, будуць павольнейшыя дзеянні, на дарозе стане табе канкурэнцыя. Адчакай, з усмешкай. Добра зрабіла б табе нейкая паездка, або хоць часцей выходзь з хаты. Блізняты з апошняй дэкады — пільнуйцеся на слізкім.

**(23.06. — 23.07.)** Усё чаго дасягнеш — дзякуючы прыхільным табе людзям. Асабліва 12.01. можаш разлічваць на іх сімпатыю і адданне. Аддзяч. 11-14.01. твая мілавіднасць і прылюднасць акажуць вялікае ўражанне. Але 8-12.01. будзеш схільны да непатрэбнага бунту і неасцярожных дзеянняў. З шэфам не спрачайся. Карміся рацыянальна, бо ў студзені можаш мець праблемы з вагой.

**(24.07. — 23.08.)** Афармляй важныя справы. Магчымыя перашкоды і цяжкасці; захаваеш спакой — нічога кепскага не будзе. 10-14.01. можаш камусьці падпасці — пільнуйся, аб чым гаворыш і будзь гатовы папрасіць прабачэння. Асабліва могуць цябе дастаць сваякі. Не адпачнеш ад мух шэфа і кліентаў; лепш прамаўчы. Вельмі дбай аб здароўе, не прахадзі прастуды, бо можаш легчы і ў шпітальную койку.

**(24.08. — 23.09.)** Многа кемлівасці і толку. Калі зробіш з іх ужытак — шмат здабудзеш. Шмат задум і новых ідэй дадуць добрую развязку для многіх спраў. Сумленна змагайся за чыёсь сэрца. У парах паявіцца шанц на паразуменне. На працы ніхто цябе не абмане, бо будзеш ведаць на чым стаіш і каму можаш даверыць. Найлепшы час падпісваць дамовы: 8-12.01., удалыя і пакупкі. Папрактыкуйся фізічна, хутка прападзе тлушчык.

**(24.09. — 23.10.)** Шмат дасягнеш, асабліва ў кар'еры, але і шмат чым паплацішся, добра скалькулюй кошты. 8-9.01. не пазбегнеш непаразуменняў у пары. 11-14.01. людзі табе давераць, не падвядзі іх! Будзеш крыху прыгнечаны (часам нават не схочацца вылазіць з ложка!), але цяпер нават у горшыя хвіліны можаш разлічваць на ўсмешку фартуны! Будзь адважны і стаў на свой развой, не звяртай з дарогі, нават калі шлях камяністы ад перашкод. Асабліва 7-12.01. пераймай ініцыятыву на рабоце.

**(24.10. — 22.11.)** Што вырашыш, тое і зрэалізуеш. Ніхто перад табой цяпер не ўстаіць — ані кліент, ані аматар. 11-14.01. партнёр будзе цябе проста насіць на руках. Добрая забава і фантастычныя кампанейскія лады. У самотнага Скарпіёна можа трапіць страла Амура! Скарпіён з лістапада рассакрэціць падвохі і інтрыгі, але няхай не дзеліцца сваімі адкрыццямі, счакае і зайграе гэтай картай у трапны момант. Пасаду шукай 8-12.01.

**(23.11. — 22.12.)** Давядзеш да канца важнае мерапрыемства. Не час на бравурнасць і непрадуманыя рашэнні. Асцярожна стаў крокі. Не наступі камусь на мазоль. Не разлічвай на свае прыгожыя вочкі (гэты прыём у студзені не задзейнічае). Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі. Можаш пашукаць дадатковага заробку, але не выдавай грошай. Не ахалоджвай арганізму, дома ўвільгатняй паветра.

**(23.12. — 20.01.)** Зможаш пераносіць горы і ніякія цяжкасці на павернуць цябе з раз абранай дарогі. Але 8-12.01. будзеш схільны да гвалтоўных і непрадуманых дзеянняў. Але ж Сонца будзе праставаць твае дарогі і прыносіць добрыя нагоды. Змяні лямпы на мацнейшыя — не хапае табе святла. Не турбуйся на запас! На працы вызначай сабе больш амбітныя заданні.

**(21.01. — 19.02.)** Спавальні сваё жыццё. Не ўсё будзе ісці згодна з тваім планам, адкладзі справы на больш карысны час. Затое Юпітар падмацуе цябе ў афармленні спраў ва ўстановах, а Венера і Нептун заахвоцяць да дабрачыннасці. На працы не бяры цяпер на сябе таго, што патрабуе адказнасці і засяроджання. Не ўпускай з вачэй важных дакументаў.

**(20.02. — 21.03.)** Новыя сяброўствы, цікавыя прапановы, нечаканае павышэнне. Цешся кожным поспехам! Калі хочаш выйграць — дай ад сябе ўсё. Будзе больш абавязкаў на працы; шанц, каб паказацца і навучыцца. 11-14.01. будзеш мець дасканалую інтуіцыю — інвестуючы, паставіш на добрага каня! Калі шукаеш працу, хтосьці знаёмы падкіне табе карысную пасаду.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. палымянае святло ад згарання, 2. гукавы партнёр маланкі, 3. выпадзенне снегу, 4. стадола, 5. расійскі губернскі цэнтр на поўдзень ад Курска, 6. пасажырскі або таварны за лакаматывам, 7. адна з жардзін, якія злучае дуга, 8. верхняя частка будынка для засцярогі ад ападкаў, 9. туалетнае рэчыва для мыцця, 10. шум, гул ад шматлікіх адначасных размоў, 11. выкладае вучэбны прадмет у навучальнай установе, 12. невялікі магазін, 13. падбор фарбаў у карціне з... тысячай мілілітраў.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | | | | | | | | |
| 2 | | | | | | 3 | | | 4 | | | | | |
| | | | | | | 5 | | | | | | | 6 | |
| | 7 | 8 | | 9 | | | 10 | | | | | 11 | | |
| | | | | | | | 12 | | | | | 13 | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**

Вырай, дыван, Ева, куль, Ніл, Ной, пай, стома, ява.

Рашэнне: **Не вылівай старой вады пакуль новай няма.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (68)

Каб замовіць хваробу ад ветру, трэба вымавіць назоў якраз таго ветру, які яе спрычыніў. На Палессі ведаюць 12 відаў ветроў. Сярод іх найбольш вядомыя *сайчук, штэмпер, муры, гыры...*

На Заходнім Палессі, як адзначае філолаг Віктар Майсеенка, разрозніваюць „вецер" і „ветраніцу". Якая паміж імі розніца? Накліканыя ветрам хваробы можна вылечыць, ветраніцай — не. Вецер звычайна лечаць на замоўленую ваду, якой абмываюць, а пасля пояць хворага. Ваду для замовы неабходна набіраць перад усходам сонца з трох крыніц. Раней хадзілі па ваду да трох суседніх сёл. Як прынцып, у такіх месцах павінны быць цэрквы. Апошняя задача здавалася немагчымай, паколькі за савецкім часам у палескіх вёсках былі ўзарваны або знішчаны амаль усе цэрквы. У Вэтлах узарвалі царкву ў мірныя шасцідзясятыя XX стагоддзя, а на тым месцы паставілі бальніцу.

Баба Маша, 83-гадовая пенсіянерка, трыццаць шэсць гадоў працавала там санітаркай. За ўсе гады наглядзелася як моц народнай медыцыны дапаўняла прафесійнае лекаванне. За дапамогай да шаптух, якіх тут ласкава называюць „бабкамі", хадзілі не толькі простыя, неадукаваныя сяляне. Самі лекары ў безнадзейных выпадках цішком адсылалі пацыентаў да шаптухі. Або, як у выпадку працяглых родаў, клікалі бабку ў паліклініку, каб згаварыла *малітвы*.

— Бо ж усе ведалі, што калі не дапаможа, то не пашкодзіць, — кажа старажылка.

Сёння аўтарытэт народнай лекаркі бясспрэчны. Вялікая частка пацыентаў бабы Машы прыходзіць з рэкамендацыяй мясцовай лекаркі. У яе рэдкая спецыяльнасць і гаючыя рукі, разам з замовамі яна прымяняе масаж. Яна лечыць залатнік.

* * *

Палешукі вераць, што ўсякія падарожнікі і асабліва тыя з далёкіх краін прысланыя нейкім ветрам. Сустрэча з бабай Машай атрымалася проста, хоць на пачатку здавалася немагчымай. Калі я раней пытала пра шаптух, у Вэтлах прыкідваліся глухімі і абыякавымі да пытання. Самая вядомая шаптуха, якую ў сяле клічуць *нявірка* (яна родам з Невіра), паехала ў госці да сына на Заходнюю Украіну, то-бок у Чарноўцы. Пра народных лекараў людзі гаварылі з крайняй асцярожнасцю, быццам баяліся выставіць іх на канфрантацыю з крытычным мысленнем ці недахопам зразумення. Яшчэ больш баяліся нездаровай сенсацыі, якой пагражала скажонасць лячэбных рытуалаў. На кожным кроку адчувалася вялікая пашана і ўдзячнасць для *божых, ведаючых* людзей. Хоць свет апынуўся ў сучаснасці, у Вэтлах, лічылі *вядуноў* непахіснымі аўтарытэтамі.

Іншая справа, усе напатканыя мной шаптухі і *цаліцелькі* былі невычэрпнай крыніцай фальклору. Яны цікавіліся гісторыяй месца і навуковай літаратурай.

Да бабы Машы патрапіла я дзякуючы Галі Мартынюк, маці адзінаццаці сыноў. Мы пайшлі да народнай спявачкі, якая яшчэ адносна нядаўна выспеўвала ўсе вяселлі, хрэсьбіны і мярліны. Галя ўзяла з сабой наймалодшага сынка Валодзю, які адначасова быў любімчыкам бабы Машы. На месцы мы пацалавалі ў клямку. Але Галя, быццам нічога не здарылася, прапанавала пачакаць. Мы прыселі на лавачцы побач драўлянай хаты і размаўлялі пра жыццё. На Палессі, як нідзе ў свеце, існуе жаночы свет, нават асоба звонку адразу адчувае апеку, спагаду, незвычайную зычлівасць з боку незнаёмых жанчын. Хоць з Галяй я была знаёмая некалькі гадзін, мы размаўлялі як родныя сёстры. Ды нават не прыкмецілі, як далучыла да нас баба Маша. Прыгорбленая жанчына, з прыгожым добрым абліччам, выйшла са сваёй хаты, абапертая на двух кійках. Без слова паяснення яна прысела з намі на лавачцы і праспявала цэлы вясельны абрад.

Хоць на двары панавала афрыканская жара, між галінамі старых яблынь павяваў ціхі лагодны вецер. Я слухала ды «бачыла» каларыт і глыбіню абраду, дзе смех і жарты лагодзілі боль расстання маладой з роднай хатай.

— А зараз ужо не спяваюць на вяселлі, — сказала са шкадаваннем баба Маша...

Каб працягнуць фальклорны настрой, я спытала яшчэ пра шаптух. Ці ведаюць такіх асоб у наваколлі? Спачатку запанавала маўчанне.

— Ды вы добра папалі, — адказала неяк таемна Галя, — наша баба Маша шмат чаго ведае. Да яе ўсе прыязджаюць, просяць дапамогі...

Ад апошняй весткі заняло мне мову.

* * *

Баба Маша замаўляе хваробы, вецер, урокі ўжо ад дванаццаці гадоў. Дар перадала ёй аднасяльчанка, *цаліцелька* з суседства. Усё атрымалася нечакана:

— Я ўсё жыццё любіла, каб каго абдорыць, дапамагчы, прынесці палёгку, — кажа пра сябе баба Маша. Як былая санітарка, лічыла сваім абавязкам апекавацца самотнай старэчай. А то занясе ёй смятану, а то свежае масла, а то ў хаце прыбярэ, загаворыць добрым словам. Звычайная суседская дапамога. Нічога не хацела ўзамен.



Маша Тарановіч



Напрыканцы жыцця вядунка паклікала яе на асобную размову і прапанавала перадаць ёй дар. Баба Маша была апошняй з дзяцей у сям'і, асобай, якой у народзе прыпісвалі асаблівыя здольнасці. Палешукі вераць, што замовы найлепш дапамагаюць ад першых і апошніх дзяцей. Але гэта не ўсё. Каб авалодаць дарам, неабходна запамятаць словы замоваў за першым разам, са слыху. У Вэтлах панавала пашыраная талерантнасць, лічылі, што замовы можна запамятаць да трох разоў.

Практыкаваць пачала ад лекавання жывёлы. Самай паўсюднай праблемай па сённяшні дзень з'яўляецца зніканне малака ў кароў. Гэтую з'яву баба Маша лечыць вадой, зачэрпнутай з калодзежа перад усходам сонца. Набірае яе з самага верху, у бутэльку. Пасля дабывае з печкі дзевяць чырвоных вугалькоў, кідае іх у ваду ды голасна адлічае лік «ад канца».

— Калі вугалькі ападаюць на дно, — паясняе баба Маша, — гэта паказвае, што карова суручаная. Каб замовіць урокі, трэба пакрапіць карову вадой, прамыць ёй вымя і адначасова згаварыць замову. Ваду, якая застанецца ў бутэльцы, неабходна выліць на тры заслоны, найлепш у хляве...

Я слухала пра таемныя практыкі і разумела, што дзеля іх ажыўлення неабходная драўляная архітэктура, калодзежы, печ, апальваная дровамі. Трэба яшчэ назіраць усход і заход сонца, прыслухоўвацца, які вее вецер, як сцелецца з коміна дым.

* * *

Вось прыклад адной замовы ад ветру, запісанай у сяле Саламіўка на Дуброўшчыне:

*Божа Маті по садочку ходіла, шчэпочкі ламала, в пучэчкі складала, на дорожку выкідала, шла до (імя) подвію шэптала. З рук і з нуг, з головы, з очэй, з плечэй. По костях нэ ходіт, костей нэ ломіт, красную кроў нэ бунтовать, а (імя) здоровой стать.*

Або ў сяле Сернікі Зарачанскага раёна:

*В нядproperлю раненько сонечко сходзіт, там по Сіянскій горы, по шовковой траві, Божая Маты ходыть. Вона свого сыночка за ручэньку водіть. А йе дай пытають: «Чого ты ходыш, Божая Маты?» А вона кажэ: «Прыйшла зілечко збыраты, людей больных, і храмых, і сліпых, і глухіх ісцыляты і 12 вітрів заганяты». Ідуть туды, дэ рыкі стікают, а травы усыхают.*

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960